НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 8 (893) 25 лютага 2015

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



СЯРГЕЙ ЗІНІН

## Вясна надышла рана, як ніколі

Старонка 9

# Давайце жыць дружна

«Адносіны з Еўрасаюзам цяпер не такія туманныя», — кажа Аляксандр Лукашэнка. Мінск пасля працяглага перапынку сталі наведваць заходнія палітыкі і дыпламаты.

Старонка 8

**На фота: міністр замежных справаў Уладзімір Макей падчас сустрэчы з латвійскім калегам.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Лукашэнка расказаў пра яўрэйскія карані Сідорскага і Мясніковіча і пра адносіны Колі з маці



Старонкі 2—3

## Наталля Качанава: як валейбалістка з водаканала стала самай высокапастаўленай жанчынай Беларусі



Старонкі 4—5

## Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у чацвер. А падпісчыкі атрымліваюць газету ў сераду — глядзі **старонку 2**.

# Лукашэнка расказаў пра яўрэйскія карані Сідорскага і Мясніковіча і пра адносіны Колі з маці

Летась у ЗША выйшла кніга амерыканскага палітолага, прафесара Рэдфардскага ўніверсітэта Грыгорыя Ёфэ «**Пераацэньваючы Лукашэнку:** Беларусь у культурным і геапалітычным кантэксце».



Сёлета ў Мінску, у Акадэміі кіравання пры прэзідэнце Беларусі і ў Нацыянальнай бібліятэцы, адбыліся прэзентацыі кнігі з удзелам аўтара, падчас візіту ў Беларусь ён сустрэўся з кіраўніком дзяржавы.

Кніга Грыгорыя Ёфэ ў значнай ступені заснаваная на двух шматгадзінных інтэрв'ю аўтара з Лукашэнкам у 2011 годзе.

Тэкст гэтых інтэрв'ю ў скароце прыводзіцца ў асобным раздзеле кнігі, які займае 75 старонак, прынамсі, чвэрць аб'ёму ўсёй кнігі.

Мы прапануем некалькі частак інтэрв'ю. Падчас гутаркі Грыгорыя Ёфэ з Аляксандрам Лукашэнкам прысутнічаў намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі Аляксандр Радзькоў, які час ад часу падаваў рэплікі.

Сам аўтар ацэньвае героя сваёй кнігі станоўча, аднак у прадмове піша, што фрагменты інтэрв'ю з Аляксандрам Лукашэнкам, якія прыводзяцца ў кнізе, — гэта «першасныя дадзеныя» . «Кожны чытач на іх падставе можа прыйсці да свайго меркавання пра Лукашэнку, якое неабавязкова супадзе з маім», — піша прафесар Ёфэ.

### «Я абсалютна народны чалавек»

**Лукашэнка:** Вядома, узбагаціць 1000 алігархаў прасцей, чым стварыць нармальнае жыццё для мільёнаў. Значна прасцей. Вы па Расеі гэта бачыце, па Украіне тым больш. Украіна падобная да нас. Добра Расеі, там яны пампуюць нафту ад Госпада, там 85 мільярдэраў на [прыватных] самалётах лятаюць. У нас толькі адзін чалавек такую магчымасць мае. Я абсалютна народны чалавек, і як бы мяне там не называлі, я асабліва не перабольшваю ролю грамадскай думкі на Захадзе. Ды шчыра кажучы, што мне да гэтай грамадскай думкі! Калі б я быў у сітуацыі Украіны, я б перажываў. А так што мне ад гэтай грамадскай думкі?

### «Сёння ідзе барацьба за Беларусь»

**Лукашэнка:** Я разумею, што сёння ідзе барацьба за Беларусь. Ці Расея прыхопіць, ці Захад сабе больш разумна падпарадкуе — але ўсё роўна калонія. Ну вось вазьміце Усходнюю Еўропу, яны ў Еўрасаюзе. Ну і што! Нямеччына, Францыя, часткова Вялікабрытанія, ну зусім крыху Італія — яны вызначаюць усю палітыку; астатнія — нос па ветры і сядзіце, і маўчыце. Ну, там яшчэ цярпіма. А Расея што кажа? Ну Вы ж чулі. Прыватызуюць: аддай, у склад Расеі ўваходзь! Таму галоўнае для мяне — абараніць краіну і выстаяць. А гэта супярэчыць інтарэсам буйных гульцоў тут — Еўрасаюза і Расеі. Вось і кручуся паміж імі. А для таго, каб забяспечыць сваю палітыку па анексіі і захопе Беларусі або заняволенні, ці як хочаце гэта назавіце, яны пачынаюць інфармацыйна гэта забяспечваць. Проста вядуць вайну інфармацыйную супраць Беларусі і перш за ўсё супраць мяне. Таму што ну хто тут жалезабетонна стаіць? Прэзідэнт. Вы ж разумееце, што вось Лукашэнку зламай — і тады ўжо працэс пойдзе хутчэй, можа быць, і прасцей. Ну, прынамсі, яны так бачаць. Вось у чым галоўная праблема, а не ў тым, што я, маўляў, дыктатар і гэтак далей.

У Саудаўскай Аравіі дыктатары яшчэ больш жорсткія, аднак жа яны ў абдымку з імі ходзяць, таму што нафта. А вазьміце Вы майго сябра Назарбаева. Што там? Ну, там нафта і газ, і ён пхае гэта ў трубу і калі трэба, то і за бесцань. Ну вазьміце Расею. Што, там сітуацыя лепшая, чым у Беларусі? Ды ў сто разоў горш. Але там нафта, газ і плюс ядзерная зброя. Вось і ўся палітыка.

Таму я спрабую, вядома, я не іду ў лабавую, я спрабую недзе прыстасавацца, дамовіцца, на кампраміс пайсці і гэтак далей, але гэта «кідалы», яны хочуць працiснуць свой інтарэс, бачачы, што яны большыя. Але большы — гэта яшчэ ня значыць мацнейшы.

### Яўрэі

**Ёфэ:** Раней не было яўрэяў на кіроўных пасадах. І хоць цяпер колькасць габрэяў у Беларусі мізэрная, ёсць сёй-той на такіх пасадах.

**Лукашэнка:** Што значыць сёй-той? Мясніковіч, прэм'ер-міністр...

**Ёфэ:** Мясніковіч? Праўда? Першы раз чую.

**Лукашэнка:** У яго карані яўрэйскія. Сідорскі, былы прэм'ер-міністр, карані яўрэйскія.

**Радзькоў:** Шапіра на чале вобласці...

**Ёфэ:** Ну, пра Шапіру мы не гаворым.

**Лукашэнка:** Я прызначаў Шапіру. Ён мне кажа: ды Вы што, Аляксандр Рыгоравіч! Я яму: а ты што маеш на ўвазе? Ён: я яўрэй, Вас жа будуць крытыкаваць. Я кажу: слухай, ты нейкі коснаязыкі, незразумелы яўрэй. Ды якая розніца, хто ты. Ты мне павінен губерню падняць на вышыню, на якой яна не стаяла. Мазгоў хапае ў яўрэяў? Хапае. Ідзі працуй! Засмяяўся. Зараз яму сорамна, што ён мне пра гэта казаў. Але ён ад душы казаў, каб мне дрэнна не было. Разумееце?

### Сям'я і малодшы сын

**Лукашэнка:** Я — не разведзены чалавек, а ў мяне ад іншай жанчыны нарадзіўся сын. Я не адпавядаю класічнаму разуменню вялікага сем'яніна: каханне на ўсё жыццё, ніводнай іншай жанчыны не было — ідэальны чалавек. Вось гэта сем'янін, кажуць. Ну а я не такі. Таму я маю на ўвазе, што ну не ідэальны я чалавек. Але я не подлы чалавек. Я ніколі нікога не крыўдзіў і ніколі не кідаў. Я заўсёды імкнуся дапамагчы.

І вось усе дзяўчаты, чаму жонка так паводзіць сябе ў адносінах да мяне. Яна разумны чалавек. Ну што, паводзіла б яна сябе па-іншаму, пачала б пісаць у газетах, ад мяне нешта патрабаваць — што б гэта змяніла?

Проста людзі б пасмяяліся, рукі б пацерлі і гэтак далей, а яна не такі чалавек, яна нармальны чалавек, мы патлумачыліся так, як мы лічылі патрэбным. Яе дзецi — мае дзеці — гэта самыя родныя людзі для мяне.

**Ёфэ:** Гэта значыць, праз іх праходзіць ваша сувязь усё роўна?

**Лукашэнка:** Ды не толькі праз іх. Калі апошні раз быў у сваёй вёсцы, пасля мерапрыемстваў усіх гэтых чынавенскіх заехаў да цешчы, яна там жыве. Яна да мяне як да роднага сына, хоць у мяне маці свая жывая: Сашачка там такі-сякі, ой, заходзь і іншае — і не таму, што я прэзідэнт — заўсёды так было. У нас заўсёды былі такія адносіны складаныя і да прэзідэнта ў сям'і, але яна мяне шануе больш, чым мая родная маці. Калі б не яна, я б не быў бы ні прэзідэнтам, ні студэнтам.

І я ёй заўсёды за гэта ўдзячны. У нас вельмі цёплыя, добрыя, сяброўскія адносіны. Яна мяне любіць больш, чым сваіх дзяцей. Яна гэтага і не хавае. І калі нехта там крытычна нешта пра мяне скажа, яна кідаецца як ільвіца за мяне.

**Ёфэ:** Скажыце, а вось Вы часта з'яўляліся ў розных сітуацыях, уключаючы Ваш вядомы візіт да Папы, разам са сваім сынам.

**Лукашэнка:** Не, гэта ён разам са мной і Папам.

**Ёфэ:** Так... Хто яго выхоўвае акрамя Вас?

**Лукашэнка:** Ніхто.

**Ёфэ:** Што ж яго ўласная маці...

**Лукашэнка:** Яго маці ўласная бачыць яго не часцей, можа быць, чым іншыя па тэлебачанні.

Гэта мой сын, які вырас у мяне на руках, я нават не хачу казаць, як гэта мне дасталося — калі не буду прэзідэнтам, раскажу. Ён ніколі не кладўся без мяне спаць і ніколі не прачынаўся.

### Жыццё пасля ўлады і сістэма ўлады ў Беларусі

**Ёфэ:** У Вас ёсць нейкія ўяўленні аб тым — ну ніхто ж не вечны, — як Ваша палітычная дзейнасць, скажам, завершыцца?

**Лукашэнка:** Ну абсалютна ў мяне няма такіх уяўленняў. Я лічу, яна можа завяршыцца нечакана, калі я адчую, што людзі

мяне не чуюць і не разумеюць, і я ім надакучыў — гэта галоўнае, таму што мяне не абвінавацяць, што я дрэнна працую, што я скраў, што я скраду (гэта выключана, гэта людзі разумеюць), але калі я адчую, што яны ўжо хочуць некага іншага, і такія ж людзі ёсць, я гэта разумею — нечаканасць будзе ў тым, што я імгненна пайду. Імгненна, нават не задумваючыся і не раздумваючы. Але я не хацеў бы, каб так было.

Я не хацеў бы. У той жа час я разумею, што я ж не вечны. І галоўны тут мой вораг — гэта здароўе. Я не кажу, што я нездаровы зараз, але я ж не жалезабетонны. Хоць і жалезабетон руйнуецца.

Усё ж можа быць. Пакуль я сябе нармальна адчуваю. Нават не магу Вам прыклад прывесці, што б я там... ну там у мяне калена прааперавалі — у футбол гуляў і разбіў, у хакей гуляю, але яно ў мяне пакуль не баліць.

Таму на здароўе я пакуль не скарджуся, дзякуй Богу. Але калі будзе не па сілах і здароўе будзе дрэннае, ну які ж я прэзідэнт! Нейкіх іншых зараз відавочных прычынаў, каб я думаў, што вось трэба сыходзіць, няма.

**Ёфэ:** У сістэме ўлады, якая склалася тут і якая асацыюецца з Вамі і з Вашай асобай, складаецца ўражанне, што гэтая сістэма на працягу доўгага часу была «заточаная» пад Вас, што ў Вас няма ніякіх запасных аэрадромаў, што называецца.

**Лукашэнка:** Яна не была «заточаная», мы самі яе «заточвалі», і я ў тым ліку. Таму што тады была сістэма такая, якую Захад вітаў — 360, прабачце мне, дурняў сядзелі, націскалі кнопкі. Савецкі Саюз краіну развaліў — націснулі кнопкі, льготы раздаць усім — націснулі кнопкі, усё роўна, што там грошай няма, не было адказнасці. І мы ў той момант, каб краіну выратаваць, стварылі як умелі гэтую ўладу. Ну і выбудавалі. Праз рэфэрэндум. Мы, дзякуй Богу, ні ў каго не стралялі з танкаў па Белым доме. Хаця сутычкі былі. Але яны праходзілі на вачах у людзей, людзі гэта бачылі і самі прымалі рашэнні. Таму вось такую мы сістэму стварылі, потым расейцы перанялі яе. Ну, Украіна хацела б мець такую, але...

**Ёфэ:** Такое ўражанне, што калі, скажам, той жа Мядзведзеў ці Пуцін сыдуць у адстаўку, у іх ёсць запасныя аэрадромы.

**Лукашэнка:** А, з гэтага пункту гледжання. На жаль, так.

На жаль, так. У мяне такіх запасных аэрадромаў няма. І Вы ведаеце, я... я пра гэта думаю. Шчыра кажу, я думаю пра гэта. Але не вельмі напружваюся. Чаму? Таму што я ўсё ж такі спадзяюся, што «адмарозкі» гэтыя, здраднікі, яны не прыйдуць да ўлады. Ну, прыйдзе там Радзькоў, я не думаю, што, нават калі ён будзе мець іншую пазіцыю, ён пойдзе недзе ў наступ на мяне і не дасць мне нейкі дом, дзе я магу спакойна жыць.

І потым, калі я яшчэ буду здаровы, я зараблю грошы. Я грошы зараблю. У мяне дзеці, добрыя дзеці. Малы гэты — я абавязаны яго падняць на ногі, таму я павінен зарабіць гэтыя грошы. Таму я не вельмі напружваюся. У мяне вельмі шмат сяброў, якія мне дапамогуць.



### Ізотавіч і Рамдракавіч

**Ёфэ:** Некаторыя пішуць, што Урал Латыпаў прадстаўляў у Вашым атачэнні праславутую руку Масквы. Ці была ў гэтым доля праўды?

**Лукашэнка:** Глупства поўнае. Урал Рамдракавіч — вельмі адукаваны, хітры па-ўсходняму чалавек. Ведаеце, калі ў Расеі татары — масквічы, тады, напэўна, і Латыпаў быў такім. Па-мойму, татары ў Расеі... у іх цалкам асаблівая пазіцыя.

**Ёфэ:** Ды не, зноў вы — татары, габрэі. Па-мойму, ён проста буйны прафесіянал.

**Лукашэнка:** Ды не, ён — нармальны чалавек. Ён і цяпер... Я неяк з ім перасякаюся часам там.

**Ёфэ:** Ён недзе ў «Лукойле».

**Лукашэнка:** Ён у «Лукойле» працуе. Працуе кіраўніком прадстаўніцтва... Вось гісторыя была такая, што ён проста казаў: маўляў, я жабрак. Мне трэба дом пабудаваць, я не зараблю на дзяржаўнай службе. Адпраўце мяне куды-небудзь. Я [сам] прасіў Алекперава, каб ён яго ўзяў на гэтую пасаду.

**Ёфэ:** Вы прасілі?

**Лукашэнка:** Я прасіў, я яго ўладкаваў туды.

**Ёфэ:** А ў Мінску ніякага прымянення.

**Лукашэнка:** Але ён туды захацеў. Я яму адразу сказаў: «Ты скажы, куды ты хочаш?»

**Ёфэ:** Так Вы кадры губляеце.

**Лукашэнка:** Ну, так. Ну губляю. Кадры губляюцца, кадры вырастаюць. Святое месца пустым не бывае. Але калі чалавек не хоча працаваць з аддачай, дык чаго яго трымаць на дзяржслужбе!

**Ёфэ:** Але ён міністрам замежных спраў быў і быў на чале Адміністрацыі.

**Лукашэнка:** Ён быў сістэмным чалавекам. І ёсць сістэмным чалавекам. Калі мне трэба, ды я яго паклічу і скажу: вось гэта рабі і на дзяржаву працуй.

**Ёфэ:** І будзе працаваць?

**Лукашэнка:** Гэта ваенны чалавек, ну што Вы. Яму загад — будзе... Але я не магу яму загадваць зараз, ён хоча сапраўды сям'ю ўладкаваць. Ён сябруе з многімі з нашых людзей, сустракаецца, ну і добра. Паўла Ізотавіча сябар.

**Ёфэ:** Там такога панапісалі...

**Лукашэнка:** Наконт Паўла Ізотавіча?

**Ёфэ:** Не, наконт іх сяброўства.

**Лукашэнка:** Латыпава і гэтага? Ну, можа быць. Яны ў блізкіх адносінах і вельмі сябруюць. Але я не думаю, што там нешта дрэннае. Латыпаў вельмі шануе вастрыню Паўла Ізотавіча.

**Радзькоў:** А ў яго гэта ёсць.

**Лукашэнка:** У яго гэтага не адбярэш. Ну, як любы яўрэй, ён чалавек таленавіты.

**Ёфэ:** Ну чаго Вы ўсё — яўрэі, таленавітыя? Розныя бываюць яўрэі.

**Лукашэнка:** Не ведаю. Але нашы таленавітыя.

**Ёфэ:** Гэтак жа, як і беларусы бываюць розныя!

**Лукашэнка:** Ну, я адмыслова.

**Ёфэ:** Ну вось менавіта.

**Лукашэнка:** Але ён таленавіты. Павал Ізотавіч — таленавіты. У яго вострае пяро.

### «Я — першы прэзідэнт краіны»

**Ёфэ:** Як бы Вы хацелі ўвайсці ў гісторыю, у якой якасці? Ну, акрамя чыста фармальнага, як першы прэзідэнт.

**Лукашэнка:** Я ўжо ўвайшоў. Я — першы прэзідэнт краіны.

**Ёфэ:** Зразумела. Тое, што Вы — першы прэзідэнт, гэта факт, і тут нічога не скажаш. Але што за гэтым?

**Лукашэнка:** Ну а што за тым, што Юрый Гагарын быў першым касманаўтам планеты? Тое і за тым, што я — першы прэзідэнт Беларусі. Для Беларусі гэта, можа, нават важней. Гэта па-першае. Пра тое, як бы я хацеў увайсці ў гісторыю, я ўвайшоў ужо.

Ну, можа, я яшчэ нешта дадам за час, які застаўся — не ведаю, колькі я яшчэ буду працаваць, колькі Бог пашле і здароўе дазволіць. Можа, я яшчэ нешта дадам. Але тое, што ёсць, тое ёсць.

Але самае галоўнае — гэта каб, калі я не буду прэзідэнтам, пра мяне казалі праўду. Але вельмі складана на гэта спадзявацца, таму што пакуль я прэзідэнт, ужо столькі нагаварылі няпраўды, таму я не вельмі на гэта разлічваю. Але, думаю, і хацеў бы, каб у сэрцах маіх людзей я застаўся іх чалавекам, каб яны мяне правільна разумелі і ўспрымалі, як разумеюць і ўспрымаюць цяпер. Паверце, тут няма ніякай патэтыкі. Я не разважаю нейкімі завоблачнымі рэчамі, тэрмінамі, што вось я буду такі, вось я ў гісторыю ўвайду такі. Я не будую ў гэтым сэнсе сваё жыццё і не пішу сваю гісторыю. Вось вельмі шмат кажуць пра малога майго. Вось ён там будзе спадкаемцам.

**Ёфэ:** Вы ведаеце, калі ён на парадзе прымае парад, то...

**Лукашэнка:** Радуйцеся. Радуйцеся, што ў мяне малы стаіць побач. Вось ён [Радзькоў] з унучкай прыйшоў, а нехта з сынам прыйшоў.

**Ёфэ:** Але ён жа ў форме там.

**Лукашэнка:** Ну добра. У мяне таксама нямала дзяцей на руках на плячах сядзяць побач, у форме, дзеткі.

**Ёфэ:** Але Вы разумееце, як гэта можна інтэрпрэтаваць?

**Лукашэнка:** Гэта Ваша права, гэта Ваша права. Раісу Максімаўну таксама інтэрпрэтавалі, а калі памерла, ну столькі ў яе сяброў раптам з'явілася.

**Ёфэ:** Не, Раіса Максімаўна, яна ж была жонкай прэзідэнта, гэта як бы частка пратаколу.

**Лукашэнка:** Якога пратаколу?

**Ёфэ:** Ну вось Вы едзеце за мяжу — Вы бераце з сабой жонку. А маленькі сын туды як бы не ўпісваецца.

**Лукашэнка:** А я бяру сына. Вы — жонку, а я — сына.

**Ёфэ:** Так.

**Лукашэнка:** Ну і што? Разумееце, гэта стэрэатып. Так, я ўзяў на парад. Мой сын хоча з бацькам быць на парадзе.

**Пераклад радыё «Свабода»**

**Што ва Украіне робіцца**

# Вырашальная вясна

Нягледзячы на перамір'е, штодзень прыходзяць паведамленні пра гібель ці раненне украінскіх салдат. Штодзень фіксуецца ад 20 да 30 артылерыйскіх абстрэлаў уздоўж лініі фронту.

Захад баіцца раззлаваць Расію, таму зброі ва Украіну не пастаўляе. Спадзяюцца стрымаць Пуціна пагрозамі. «Захоп Марыупаля будзе азначаць поўнае парушэнне Мінскіх дамоўленасцей», - заявіў спікер польскага Сойма Радаслаў Сікорскі.

Сапраўды, наступнымі мэтамі расійскага наступу могуць стаць Марыупаль з двума найбуйнейшымі металургічнымі камбінатамі і Аўдзееўка з коксахімічным заводам (вытворчасць коксу — элітнага вугалю з высокай цеплынёй згарання, патрэбнага ў металургіі).

Адначасова інтэнсіфікуюцца дыверсанты. Тры чалавекі загінулі ў Харкаве ў нядзелю. Бомбу з дыстанцыйным кіраваннем узарвалі ў гушчы дэманстрантаў у часе Маршу за адзінства Украіны. Ахвярамі сталі 45-гадовы падпалкоўнік міліцыі, малады мужчына, які ўзначальваў ініцыятыву па дапамозу украінскім сілавікам, і 15-гадовы хлопец.

Украінскія спецслужбы заявілі, што сляды тэрарыстаў вядуць у Расію.

Тэрарысты разлічваюць, што ўкраінскае грамадства стоміцца ад напружанасці. Бо колькі ж можна, сапраўды?

Украінскія войскі не могуць пахваліцца ваеннымі поспехамі. Параза у Дэбальцаве была балючай. Сепаратысты захапілі нават «контрбатарэйную ўстаноўку» — апаратуру па выяўленні месца, з якога вядзецца артылерыйскі агонь, адзінае абсталяванне, што паставілі ўкраінскай арміі амерыканцы. Нават яго ўкраінцы, адступаючы, не здолелі падарваць.

Падзенне ўкраінскай эканомікі за ваенны год склала 15%. Курс грыўні ўпаў да 32 за даляр, бо ў Нацбанка не засталося золатавалютных рэзерваў.



Расійскія «спецы» падбухторваюць украінцаў на бунт супраць Парашэнкі і Яцанюка. Дзеля гэтага ў інтэрнэце размяшчаюцца мільёны «каментаў» ад імя нібыта «звычайных людзей», запускаюцца чуткі. У разліку Крамля, унутраны разлад канчаткова дабіў бы Украіну і даў падставу для ўвядзення расійскіх войскаў у Харкаў і Адэсу, якія застаюцца галоўнымі цэлямі. Данбас – гэта толькі лапік ад жаданага.

Кіеў, у сваю чаргу, разлічвае стабілізаваць сітуацыю за кошт грошай Міжнароднага валютнага фонду, што павінны прыйсці ў сакавіку. Пазітыўна, што краіне ўдалося датрымаць да вясны ацяпленне ў дамах і падачу электрычнасці. Пенсіі і заробкі, хоць і зменшыліся ў даляравым эквіваленце, але выплачваюцца. Дзяржаўныя органы і сілавыя структуры працуюць.

Калі праводзіць паралелі з пярэднем Другой сусветнай вайны, Украіна выбрала не шлях Аўстрыі і Чэхаславакіі, якія проста здаліся агрэсару, а шлях Польшчы і Фінляндыі, якія супраціўляліся. А вынік супраціўлення ў значнай меры будзе залежаць ад абёму дапамогі саюзнікаў.

**Мікола Бугай**

# Як валейбалістка з водаканала стала самай

Гісторыя жыцця віцэ-прэм'ера **Наталлі Качанавай**.

Вось ужо два месяцы, як Наталля Качанава працуе віцэ-прэм'ерам па сацыяльных пытаннях. У незалежнай Беларусі яшчэ не было ніводнай жанчыны, якая б займала такую высокую пасаду.

Качанава дагэтуль жыве ў гасцініцы і патроху асвойваецца ў сталічных наменклатурных парадках, не робячы гучных заяваў. Дзякуючы (ці насуперак) чаму яна дасягнула такога кар'ернага росту?

## Руская па нацыянальнасці

У анкеце на сайце Наваполацкага гарвыканкама Качанава пазначыла сябе як «руская». Род яе бацькі паходзіў з Падмаскоўя, сваякі працавалі на кухні ў Крамлі.

Іван Талкачоў быў кавалём у ліцейна-механічным цэху, а ягоная жонка Ніна працавала на швейнай фабрыцы.

У сям'і гадавалася трое дзяцей, але ў першага сына быў іншы бацька. Леанід Чычэрын, старэйшы брат Наталлі, цяпер жыве у Краснадары. У свой час ён адвучыўся ў Маскве ў Вайсковаінжынернай акадэміі і стаў кадравым вайскоўцам. Леанід доўгі час служыў у Германіі. Якія погляды ў ягонай сям'і? Пляменніца Качанавай штодня публікуе на сваёй старонцы ў «Аднакласніках» карцінкі, прысвечаныя «гейропе» і падабенству Барака Абамы з малпай.

Старэйшаму брату чыноўніца абавязаная сваім іменем. Сямейная легенда кажа, што першым каханнем Леаніда ў дзіцячым садку была дзяўчынка па імені Наталля. Таму, маўляў, і сястру хлопец прапанаваў назваць гэтаксама.

Малодшы брат, Алег, скончыў Сімферопальскі тэхнікум харчовай прамысловасці. Паводле інфармацыі ў сацыяльных сетках, цяпер ён жыве ў Кіеве. Палітычных прыхільнасцяў Алег Талкачоў не выказвае, ягоная стужка навінаў стракаціць выявамі праваслаўных святых.

## Дзяцінства ў элітнай камуналцы

Сям'я Талкачовых жыла ў камунальнай кватэры. «Я да 30 гадоў пражыла на супольнай кухні. У нас не было ні ванны, ні гарачай вады. Але тады мы не лічылі, што ў нас нешта дрэнна», — узгадвала Наталля Качанава. Жыхары гэтага дома некалькі дзесяцігоддзяў карысталіся печкамі.

Зрэшты, даваенны трохпавярховы дом, у якім жылі Талкачовы, быў няпростым. Ён знаходзіцца ў самым цэнтры Полацка, на вуліцы Камуністычнай. Гэта быў першы шматпавярховік у горадзе. Пасля вайны у яго засялілі кіраўніцтва новастворанай Полацкай вобласці.

За якія заслугі пакоі ў дамах на Камуністычнай выдзяляліся іншым жыхарам? Напрыклад, бацькі Ніны Азернікавай, якая жыве тут дагэтуль, былі заслужанымі настаўнікамі Беларусі. Жанчына таксама адпрацавала настаўніцай некалькі дзесяцігоддзяў. Яна расказвае, што Качанава вырасла ў яе на руках — бацькі чыноўніцы таксама нейкім чынам атрымалі жыллё ў гэтым доме.

Кватэры перасталі быць камуналкамі толькі ў канцы 1980-х. Жыхароў адсялілі на час рэканструкцыі, аднак праз два гады далёка не ўсе вярнуліся ў свае кватэры. Многія атрымалі іншае жыллё. А вось Качанава змагла палепшыць жыллёвыя ўмовы.

Ніна Азернікава расказвае, што з дапамогай сваіх былых вучняў у домаўпраўленні паспрыяла таму, каб пасля рэканструкцыі будынка Качанава атрымала асобную кватэру: «Адзін з суседзяў моцна піў, дык я ўпрасіла, каб яго вытурылі з кватэры і аддалі яе нашай дарагой Наташаньцы». На той момант Качанава была інжынерам у наваполацкім водаканале. Тады яшчэ яе кар'ера развівалася не надта імкліва.

## Поспехі ў валейболе, а не ў вучобе

Наталля марыла стаць выхавацелькай у дзіцячым садку. Аднак калі пайшла ў школу (7-я школа, а цяпер гімназія №1 імя Францыска Скарыны знаходзілася пад вокнамі дома), захапілася спортам. У малодшых класах дзяўчынка займалася лёгкай атлетыкай, а пасля разам з сяброўкамі перайшла на валейбол. Наталля выступала за зборную школы на рэгіянальных спаборніцтвах.

Як часцяком бывае ў такіх выпадках, поспехі ў навучанні былі горшымі. «Яна вучылася ў шэранькім, сціплым класе. Сярэднімі былі і адзнакі», — узгадвае Ніна Азернікава. Разам з тым настаўнікі адзначаюць старанасць і добразычлівасць вучаніцы.

Школа спецыялізавалася на англійскай мове. Яе пачыналі вучыць яшчэ ў малодшых класах, а ў старэйшых нават праводзілі па-англійску некаторыя заняткі па матэматыцы і гісторыі.

«Яе група была складаная. Шмат вучняў, і ў многіх слабое веданне мовы», — расказвае Наталля Нялюбава, якая вучыла чыноўніцу замежнай мове з сёмага класа. У анкетах Качанава пазначае, што валодае англійскай, аднак у рэальнасці так і не загаварыла на ёй свабодна.

## Спорт — пропуск у будучыню

Паступленне ў Наваполацкі політэхнічны інстытут (цяпер Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт) таксама адбылося дзякуючы спорту. Навучальныя ўстановы былі зацікаўленыя набіраць абітурыентаў, якія маглі б выступаць на спаборніцтвах, няхай і ў страту поспехам у вучобе. Вось валейбольны трэнер і запрасіў Талкачову (Качанаву).

«Шчыра кажучы, я тады пра гэтую ВНУ нават не падумвала.



«У некаторых момантах у мяне нават слёзы выступалі на вачах, бо я адчувала шчырасць гэтага чалавека», — казала Качанава пасля таго, як паслухала выступ Лукашэнкі на «ўсебеларускім сходзе» »

**Наталля Качанава**

Нарадзілася 25 верасня 1960 у Полацку. Па нацыянальнасці руская. Скончыла Наваполацкі політэхнічны інстытут (1982) і Акадэмію кіравання (2006).

Працавала ў полацкім «Водаканале» (1982—1995), у жыллёва-камунальнай гаспадарцы Полацка (1995—2002).

У 2002—2007 — начальнік аддзела ЖКГ, намесніца старшыні Полацкага гарвыканкама па будаўніцтве і ЖКГ, у 2007—2014 — старшыня Наваполацкага гарвыканкама.

З 2014 — віцэ-прэм'ерка.

Замужам, мае дзвюх дачок.



**Валейбольная каманда ўніверсітэта. Крайняя злева стаіць Качанава.**

# высокапастаўленай жанчынай Беларусі

Але, паддаўшыся на ўгаворы, мы з сяброўкай паехалі падаваць дакументы ... Вучыцца менавіта ў гэтую ВНУ пайшла, каб мець магчымасць займацца спортам», — расказвала Качанава.

Выбар спецыяльнасці адбываўся наўпрост перад падачай дакументаў. Будучая чыноўніца ўпадабала «водазабеспячэнне і каналізацыю». Чаму? «Мяне чамусьці прывабіла гэтая спецыяльнасць. Як цяпер памятаю стэнд з карцінкамі, схемамі ачышчальных збудаванняў», — узгадвала яна. І прызнавалася: «На першым курсе я сябе не бачыла нікім».

Аднакурснікі не могуць адзначыць яе поспехі ў навучанні. Затое спартыўныя выступленні давалі дзяўчыне розныя перавагі. Напрыклад, на бульбу яна не ездзіла.

### Выпускніца без амбіцый

Па размеркаванні Наталля апынулася ў Светлагорску. Аднак на тамтэйшым «Хімвалакне» яе не надта чакалі. Качанавай намякнулі, што будуць не супраць,

**«Ну і да чаго я імкнулася? Ды ні да чаго»**

калі яна сама знойдзе іншую працу. Дый наваполацкі палітэх тады не адсочваў пільна тых выпускнікоў, хто не даязджаў да прызначанага месца.

Наталля не стала змагацца за працу ў Светлагорску, а вярнулася ў Полацк, дзе ўладкавалася дыспетчарам на «Водаканале». Тры месяцы яна адказвала на званкі і выпісвала пуцявыя лісты, пасля чаго яе перавялі на зайздросную пасаду інжынера па тэхніцы бяспекі.

«Мне заўсёды ўсё падабалася. Я ніколі не думала ніадкуль сыходзіць... Калі была ў дэкрэце, мне прапанавалі перайсці на прадпрыемства ЖКГ. Я і пайшла. Ну і да чаго я імкнулася? Ды ні да чаго, — шчыра расказвае сваю жыццёвую філасофію чыноўніца. — У мяне ніколі не стаяла такая мэта — дасягнуць нейкіх вышынь у кар'еры».

### Муж-баскетбаліст

Яшчэ ва ўніверсітэцкія часы падчас спаборніцтваў Наталля пазнаёмілася са сваім будучым мужам. Леанід Качанаў таксама быў спартсменам, ягоны профіль — баскетбол.

Да апошняга часу муж працаваў фізруком у Полацкім гандлёва-тэхналагічным каледжы. У пачатку лютага ён звольніўся і сабраўся да жонкі ў Мінск.


Старэйшая дачка Вольга гадуе двух сыноў.

Першая дачка ў сям'і нарадзілася ў 1985-м. Вольга паступіла ў Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт на спецыяльнасць «педыятрыя». Адвучыўшыся, яна вярнулася на малую радзіму разам з мужам, таксама педыятрам. Цяпер Вольга працуе ў наваполацкім раддоме. У сям'і гадуецца двое дзяцей.

Другая дачка чыноўніцы, Алена, маладзейшая за сястру на дзевяць гадоў. Сёлета яна мае скончыць аддзяленне замежных моваў гісторыка-філалагічнага факультэта Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Што стала прычынай выбару прафесіі? У гімназіі, дзе вучылася дзяўчына, быў арганізаваны культурны абмен са Швецыяй. Настаўнікі Алены ўзгадваюць, што жыццёвыя планы дзяўчыны змяніліся пасля паездкі ў Скандынавію. Менавіта там яна зразумела, наколькі патрэбнае веданне замежных моваў.

Знаёмыя кажуць, што Алена разумная і патрыятычная дзяўчына.

### Карупцыйнае кіраўніцтва Полацка

Праца ў жыллёва-камунальнай гаспадарцы Полацка змянілася пераходам у гарвыканкам. Неўзабаве Качанава стала намесніцай кіраўніка Полацка Уладзіміра Тачылы, яна адказвала за сферу ЖКГ і будаўніцтва.

«Прыход у Полацкі гарвыканкам быў для мяне поўнай выпадковасцю, бо дагэтуль я працавала проста інжынерам і ні пра якую ўладу не думала ... Дзякуй майму мудраму і вопытнаму настаўніку Уладзіміру Тачылу. Менавіта ён прымусіў мяне паверыць ў свае сілы і зрабіць наступны крок у жыцці», — казала Качанава.

Цікава, што мэр быў яе суседам па доме на Камуністычнай.


«Я бачу, з якім гонарам гаворыць пра Беларусь мая малодшая дачка», — казала пра Алену маці.

Там ён запісаў чатырохпакаёўку на старэйшую дачку. Зрэшты, на нерухомасці Тачыла і прагарэў. У пачатку 2010-х была заведзена крымінальная справа за выдзяленне ўчасткаў каля Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра. Уладзімір Тачыла і ягоны намеснік Сяргей Куксаў набралі сабе і сваім блізкім зямлю пад катэджы. Не чакаючы суда, мэр напісаў прашэнне аб памілаванні і выйшаў на волю.

### Спрэчкі паміж Полацкам і Наваполацкам

Качанава пайшла на павышэнне яшчэ да сумнеўнага выдзялення зямлі полацкім чыноўнікам. У 2007-м яе нечакана прызначылі старшынёй Наваполацкага гарвыканкама. Гараджане называюць яе пратэжэ Аляксандра Косінца, які на той момант быў віцэ-прэм'ерам, а пасля стаў губернатарам Віцебшчыны.

Адной з ідэй Косінца было аб'яднанне Полацка і Наваполацка ў адну адміністратыўную адзінку, бо адлегласць паміж гарадамі складае ўсяго 5 км. Размова пра зліццё ў мэтах аптымізацыі выдаткаў вялася яшчэ з савецкіх часоў, але папярэднік Качанавай Аляксандр Камароў актыўна супраціўляўся гэтай ідэі.

Жыхары Наваполацка не ўхвалялі праект, бо хацелі, каб падаткі «Нафтана» ішлі на іх горад, а не на будаўніцтва інфраструктуры ў не такім багатым Полацку. З іншага боку, многія палачане ставяцца да Наваполацка ўсяго толькі як да прыгарада свайго старажытнага горада.

### Зачышчанае палітычнае поле

Чыноўніца кіравала Наваполацкам сем гадоў. Што змянілася падчас яе ўлады?


У доме ў цэнтры Полацка чыноўніца пражыла большую частку жыцця. Спачатку гэта была камунальная кватэра.

«Грамадская актыўнасць падчас яе кіравання была знішчаная — ніводнай дазволенай акцыі. Качанава даволі агрэсіўна ўспрымала актыўнасць грамадзян», — узгадвае наваполацкі праваабаронца Зміцер Салаўёў. На маўклівыя акцыі пратэсту ў 2011-м збіраліся сотні людзей, некаторых з іх затрымлівалі і давалі штрафы. А гарвыканкам у дні «апладысментаў» праводзіў на цэнтральнай плошчы Наваполацка забаўляльныя мерапрыемствы. Сама ж Качанава дала інтэрв'ю пад назвай «У пошуках альтэрнатывы піву, тупанню і пляканню».

Іншая непрыемная сітуацыя здарылася ў 2012-м. У «Советской Белоруссии» быў апублікаваны артыкул пра прыкрую сітуацыю з наваполацкім Домам культуры, у якім ніяк не маглі скончыць рамонт. Дырэктара Аляксандра Рагачова адразу ж выклікалі ў гарвыканкам і прапанавалі самому напісаць заяву аб сыходзе. Маўляў, ён зганьбіў Наваполацк на ўсю краіну. Работнікі Дома культуры заступіліся за Рагачова і заявілі, што хочуць, каб той застаўся пры пасадзе. Качанава ў адказ заявіла: «А мы не хочам». Дырэктару давялося сысці.

Пры папярэдніку Качанавай у горадзе з'явіўся дэндрарый, пры ёй скончылася будаўніцтва новага ЗАГСа. Чыноўніца ініцыявала адкрыццё новага музея гісторыі і культуры Наваполацка. Сярод іншых выгодаў — мадэрнізаваны радзільны дом, дзе працуе дачка чыноўніцы, а таксама будаўніцтва лыжаролернай трасы на грошы Еўрасаюза.

А вось, напрыклад, да стадыёна «Атлант», на якім гуляе «Нафтан», рукі не дайшлі. Ён лічыцца найгоршым стадыёнам краіны сярод тых, на якіх выступаюць каманды вышэйшай лігі чэмпіянату Беларусі.

**«У пошуках альтэрнатывы піву, тупанню і пляканню»**

Футбольны клуб быў гатовы рэканструяваць яго за свае грошы, але не дазволілі — гэта гарадская ўласнасць.

### Службовы катэдж у пасёлку «чаргавікоў»

Наваполацк — адзін з самых багатых гарадоў у краіне. За кошт даходаў работнікаў «Нафтана» сярэдні заробак у снежні 2014 года дарос да 8,2 мільёна рублёў. Паводле Белстата, больш зараблялі толькі ў Салігорску і Мінску.

Кватэр у гарадскіх панэльных каробках мясцовай эліце не хапала ўжо даўно, таму непадалёку ад Наваполацка паўстала «вёска мільянераў». Грошай на будаўніцтва ў гараджан не бракавала. Тут жывуць бізнэсмены, а таксама работнікі «Нафтана». Катэджам у Міжрэччы могуць пазайздросціць жыхары сталічных прадмесцяў. Побач з дамамі водныя каналы з масцікамі, спартовы цэнтр з тэніснымі кортамі, аддзяленне банка, некалькі бараў. Маладыя пары з Полацка і Наваполацка прыязджаюць сюды на фотасесіі падчас вяселля.

Некалькі гадоў таму на ўездзе ў Наваполацк з боку Экімані стаў фарміравацца новы пасёлак, так званы «паліміраўскія катэджы». Некаторыя ўчасткі прадаваліся праз аўкцыёны, большасць выдзялялася для чаргі на паляпшэнне жыллёвых умоваў. Каб атрымаць зямлю ў Наваполацку, дастаткова пачакаць пяць гадоў.

Найбольш прэстыжныя ўчасткі пасёлка знаходзяцца ў водаахоўнай зоне на беразе Заходняй Дзвіны. Сярод іх уласнікаў — намеснік кіраўніка гарадской міліцыі, дырэктар мясцовага парку культуры, пратэстанцкі пастар. Паводле дакументаў, адным з дамоў у квартале валодае наваполацкае ЖРЭА. Па словах былых суседзяў, у гэтым катэджным пасёлку жыла і сям'я Качанавай.

### Хобі — літаратура

Наталля Качанава называла сябе праваслаўнай. У савецкі час яна была далёкая ад веры, аднак пасля пераасэнсавала погляды. Полацкі архіепіскап Феадосій пазалетась узнагародзіў чыноўніцу ордэнам Еўфрасінні Полацкай.

Разам з праваслаўнай царквой яна ініцыявала кампанію супраць абортаў. «Качанава першая паставіла свечку ў знак падтрымкі антыабортнай акцыі», — адзначалася на царкоўным сайце.

Сваім хобі Качанава называе чытанне. «Вельмі люблю перачытваць рускую класіку: Талстога, Дастаеўскага...» — прызнавалася яна. Праўда, калі ў наваполацкай бібліятэцы адкрылася выстава «Любімыя кнігі вядомых людзей горада», чыноўніца была «прадстаўленая» жаночымі раманамі.

А вось муж чыноўніцы — заўзяты рыбак. Калі ў сям'і згарэла паветка ў двары дома на Камуністычнай, Качанава наракала на страту новых вудаў.

Настаўнікі гімназіі, у якой вучыліся яе дзеці, кажуць, што чыноўніца старалася не прапускаць бацькоўскія сходы. Нават пасля кар'ернага росту Наталля не стала фанабэрлівай і ганарлівай. Яна адкрытая для людзей, з ёй па-ранейшаму можна паразмаўляць на вуліцы. Не цураецца Качанава і журналістаў.

### Нечаканае прызначэнне

Здавалася, што кіраванне Наваполацкам — вяршыня кар'еры Наталлі Качанавай. Яе ўзлёт на пасаду віцэ-прэм'ера па сацыяльных пытаннях у канцы 2014 быў нечаканым для ўсіх.

«Нават цяжка сказаць, што Качанава панюхала і пакаштавала, яна ж ішла па ЖКГ. Яна натуральным чынам прыйшла на гэтую пасаду, сумленна працуючы на сваіх пасадах, — расказаў Аляксандр Лукашэнка падчас сёлетняй прэс-канферэнцыі. — Прапанова па прызначэнні Качанавай прыйшла ад сілавых структур. Я папрасіў Андрэйчанку пісьмова паручыцца. Ён адазваўся станоўча».

Спікер палаты прадстаўнікоў Уладзімір Андрэйчанка і згаданы вышэй Аляксандр Косінец (цяпер кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта) абодва віцебскія, яны маглі лабіраваць прызначэнне землячкі.

Мог даць ухвальную характарыстыку і былы выкладчык вышэйшых курсаў КДБ Анатоль Тозік, на месца якога прызначылі Качанаву. Пакуль што яна працягвае лінію свайго папярэдніка. Расказвае пра сацыяльна арыентаваную дзяржаву ды ўшчувае бацькоў, дзеці якіх прагульваюць садок. У Наваполацку ж месца Наталлі Качанавай заняў былы работнік КДБ, камунальшчык Дзмітрый Дзямідаў, яе ранейшы першы намеснік.

**Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч**

# Беларускі дэсантнік у «ДНР»: Я прыехаў сюды, калі пачуў пра распятага хлопчыка

**У інтэрнэце з’явілася відэаінтэрв’ю з камандзірам узвода падраздзялення «Спарта», былым беларускім дэсантнікам Белым. Мы палічылі важным працытаваць некалькі момантаў.**

Белы — разам са снайперкай з Барысава Наталляй Красоўскай — самы вядомы беларускі найміт у «ДНР». У зоне баявых дзеянняў ён ужо ад чэрвеня 2014-га. Кажа, што з Беларусі выехаў у Маскву, адтуль — у Растоў, а ўжо потым — у зону канфлікту. Беламу 23 гады, гаворыць з яўным беларускім акцэнтам, з цвёрдым «ч». На гэта нават звяртае ўвагу вядучы.

Мова Белага даволі бедная і блытаная, з ужываннем мацюкоў.

Белы з вялікай настальгіяй і павагай успамінае службу ў «5-й асобнай брыгадзе спецназа» ў Мар’інай Горцы.

Чаму беларускі хлопец паехаў ваяваць за «ДНР»? «У інтэрнэце пабачыў відэа, як у Славянску жанчыну прывязалі да БТРа і цягалі па горадзе. Дзіця прыбілі да плота. Гэта ўсё не паказвалі, але гаварылі. Гэта мяне закранула. Было гэта насамрэч ці не... Але гэта закранула. Гэта быў край». Гэта славутая гісторыя пра «распятага хлопчыка», якая выявілася самым грубым і непрафесійным фэйкам расійскай прапаганды. Але, як бачым, на некага гэта падзейнічала вось так.

У Белага пытаюцца, у якіх баявых дзеяннях ён браў удзел?

«Станіца-Луганская [там, дарэчы, быў паранены беларускі снайпер з батальёна «Тарнада» з пазыўным Маджахед, што ваюе на ўкраінскім баку], Луганскі аэрапорт — там усё хутка было, ніхто не трымаўся за гэты аэрапорт. Здача Дэбальцава ў чэрвені. На Савур-Магіле быў у ліпені, калі помнік ноччу «Градамі» разнеслі».

«Мы не проста кучка. Мы — рэгулярная армія», — сцвярджае Белы.

Колькі ж беларусаў ваюе на баку «Наваросіі»? «Нас тут адзінкі, — шчыра кажа Белы. — Да лістапада я быў адзін. Тады прыехаў Дзіма Макарэвіч».

«Бандэраўцы — горшыя за фашыстаў. Хатынь, хто яе спаліў? Асабіста Бандэра. Я нарадзіўся за сем кіламетраў ад Хатыні, потым мы ўжо з’ехалі ў Мінск. Там жа асабіста быў Бандэра», — упэўнены Белы.

Вось так дзейнічае расійская прапаганда. Ясна, што ніякага Сцяпана Бандэры ў сакавіку 1943 года ў Хатыні быць не магло. У гэты час кіраўнік Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў знаходзіўся ў зняволенні ў нямецкім канцлагеры Заксэнхаўзэн. А Хатынь спаліла зондэркаманда, набраная з былых савецкіх ваеннапалонных — так, украінцаў, але такія ж набіралі з ліку рускіх ці латышоў.

Белы кажа, што не плануе вяртацца ў Беларусь.

«Наваросію» ён лічыць сваёй новай радзімай. Марыць пра кар’еру вайскоўца арміі «ДНР».




«Мне хацелася б ездзіць у Беларусь у госці, але нам нельга, бо ўрад беларускі прыняў закон, што тыя, хто едзе ваяваць у зону АТА, прыраўніваецца да тэрарыстаў... Наймітаў. Даюць вялікія тэрміны. У нас у 2015-м годзе выбары, Лукашэнка баіцца, што мы прыедзем і зробім пераварот», — мяркуе Белы.

Белы прызнае, што ва ўкраінскіх батальёнах беларусаў непараўнальна больш.

«Колькі беларусаў у «Айдарах», «Азовах», іх там больш тысячы ўжо. Вельмі шмат!». Ён нават расказаў гісторыю аб сваім сябры з 5-й дэсантнай брыгады, які ваюе на баку Украіны.

Гэта перабольшванні, вядома. На ўкраінскім баку беларусаў сапраўды больш, чым сярод баевікоў, але і там іх, паводле нашых ацэнак, дзясяткі, а не сотні.

За час баявых дзеянняў Белага тройчы ранілі, было чатыры кантузіі. «У нас усе ўжо кантужаныя», — смяецца ён.

**Зміцер Панкавец**

# Беларусь пачне выпускаць свае «Іскандэры»?

**Гэты праект можа быць рэалізаваны толькі ў кааперацыі з украінцамі.**



На мінулым тыдні ў расійскіх СМІ шырока разышоўся тэкст вайсковага аналітыка Аляксандра Алесіна пра магчымасць стварэння Беларуссю новай зброі. Алесін сабраў выказванні Лукашэнкі і іншых чыноўнікаў аб новым узбраенні.

Апошняе па часе выказванне належыць старшыні Дзяржаўнага ваенна-прамысловага камітэта Сяргею Гурулёву. Той 30 студзеня паведаміў журналістам, што на наступным парадзе свет пабачаць новыя сродкі агнявога паражэння. Гурулёў дадаў, што «пакуль гэта не для ВПС ці СПА».

З гэтага эксперты зрабілі высновы, што гутарка хутчэй за ўсё ідзе пра ўласны аператыўна-тактычны ракетны комплекс (АТРК), беларускі аналаг расійскага «Іскандэра». Навошта Беларусі патрэбныя свае «Іскандэры» і ці зможа айчынны ВПК зрабіць такую зброю, «НН» распытала Аляксандра Алесіна.

**Даведка «НН»**

«Іскандэр» — расійскі аператыўна-тактычны ракетны комплекс, які пачалі распрацоўваць у 1988 і прынялі на ўзбраенне ў 2006. Комплекс складаецца з ракеты, самаходнай пускавой установкі, транспартна-зараджальнай машыны, машыны тэхнічнага абслугоўвання, пункта падрыхтоўкі інфармацыі і комплекту арсенальнага абсталявання.

Ракеты «Іскандэра» — цвёрдапаліўныя аднаступенчатыя. Яны могуць несці боегалоўку масай 480 кг на адлегласць 500 км. «Іскандэр» цяжка перахапіць, праз высокую хуткасць палёту ракеты, змянлівую траекторыю і выкарыстанне стэлс-тэхналогіі і іншых сродкаў пераадолення ПРА. Ракеты «Іскандэра», акрамя іншых, могуць камплектавацца тактычнымі ядзернымі боегалоўкамі.

### «Ніхто б нам не пагражаў»

«Лукашэнка даўно шкадуе аб вывядзенні з тэрыторыі Беларусі расійскай ракетна-ядзернай зброі, — кажа Алесін. — А для краін ва ўмовах Еўропы аналагам стратэгічнай зброі з’яўляюцца аператыўна-тактычныя ракетныя комплексы (АТРК). Іх нават называюць «еўрастратэгічнымі ракетамі». Краіны, якія валодаюць такой зброяй, добра абароненыя ад агрэсіі.

Улічваючы невялікія адлегласці і густанаселеныя тэрыторыі з вялікай сеткай прамысловых і энергетычных аб’ектаў, ракета з радыусам дзейнасці 300 кіламетраў маглі б паражаць аб’екты высокадакладнымі боегалоўкамі з боепрыпасамі, эквівалентнымі 500 кілаграмам тратылу. Гэтага хопіць, каб разбурыць любы завод, чыгуначную станцыю і нават атамную электрастанцыю.

Калі мы вырабім такую ракету самі, яе далёкасць можа дасягаць 500 кіламетраў. Іншыя краіны ракеты з радыусам дзейнасці не больш за 300 кіламетраў нам не прададуць».

### Дапамогуць украінцы

Алесін кажа, што Беларусь у адзіночку наўрад ці адолее стварэнне АТРК, хоць у нашай краіне ўжо ёсць распрацаваныя элементы для такога роду комплексаў. І наймавернейшы партнёр у гэтай справе — зусім не Расія, а Украіна.

«Спачатку Лукашэнка, напэўна, разлічваў на пастаўкі «Іскандэраў», — кажа Алесін. — Але ці то праз вытворчыя цяжкасці, ці праз нежаданне дзяліцца такой зброяй нават з саюзнікамі, з Расіяй справа не прасунулася далей за абяцанні. Таму Лукашэнка торгае наш ваенна-прамысловы комплекс і патрабуе вырабіць аналагічную зброю. Тым больш, у нас ёсць многа кампанентаў. Па-першае, гэта шасі ад Мінскага завода колавых цягачоў. Таксама наша навука дазваляе выпускаць для такіх ракетных комплексаў сістэмы навядзення і кіраваныя боегалоўкі — аптычныя, радыёэлектронныя. Вядома, трэба прыкласці высілкі, але база ёсць.

Адзінае, чаго нам не хапае — самой ракеты. У Беларусі няма вытворчасці цвёрдага ракетнага паліва і сістэм кіравання палётам. Па інфармацыі расійскіх і ўкраінскіх СМІ, гэтыя тэхналогіі мы планавалі атрымаць ад Украіны ці арганізаваць сумесную вытворчасць.

Мы з Украінай супрацоўнічалі ў вытворчасці супрацьтанкавых ракетных комплексаў. Гэта, напрыклад, «Шэршань» у некалькіх мадыфікацыях: пераносныя, мабільныя комплексы. Былі і іншыя праекты, якія ў сувязі з канфліктам ва Украіне маглі быць згорнутыя, а маглі б наадварот — паскораныя. Увогуле, у сённяшніх умовах, калі Расія скасоўвае замовы, украінскім прадпрыемствам ВПК разам з беларусамі ніздрэнна было б прадставіць навукаёмістыя вырабы. Бо права гандляваць тым жа «Шэршнем» атрымалі абодва бакі.

Таксама ва ўкраінскіх СМІ часта праходзіць інфармацыя, што Беларусь пераваблівае ўкраінскіх спецыялістаў ВПК. Гэтыя людзі звычайна ўжо сталага ўзросту, і калі ўлічваць цяжкія ўмовы і гарантаванае ў Беларусі спакойнае жыццё, многія могуць пагадзіцца».

**Запісаў Кірыла Хілько**

# Два дзясяткі ўкраінскіх каўбояў штурмавалі беларускую мяжу

**20 невядомых, вердучы з сабою чатырох коней, спрабавалі прарвацца з Украіны ў Беларусь.**

Аб няўдалай спробе міграцыі паведамілі ў Дзяржаўным пагранічным камітэце.

Паводле афіцыйнай інфармацыі, парушальнікаў разам з конямі спыніў Пінскі памежны атрад — беларускім службоўцам нават давялося страляць.

У прэс-цэнтры пагранічнага камітэта пры гэтым падкрэслілі, што, мяркуючы па слядах на снезе, сярод парушальнікаў ёсць параненыя.

«Пасля ўжывання памежнікамі зброі, невядомыя кінулі коняў і ўцяклі назад ва Украіну, затрымаць іх не ўдалося. Цяпер украінскі бок вядзе расследаванне інцыдэнту — на гэтым участку мяжы падобнае ўжо не ўпершыню». — сказаў «Нашай Ніве» прэс-афіцэр пагранічнага камітэта.

Хто яны былі? Цыганы? Украінскія памежнікі адказалі нам, што невядомых каўбояў яшчэ не адшукалі.

**Арцём Гарбацэвіч**

Уладзіслаў Швядовіч
аддзяжурыў начную змену з брыгадай хуткай дапамогі.

# Жыццё — яно такое

Змена пачынаецца а 21-й, а першы выклік для нашай 21-й брыгады інтэнсіўнай тэрапіі горада Брэста паступае ў 21.28. Мужчына скардзіцца на боль у сэрцы. Хуценька сядаем у аўтамабіль і выязджаем пад бадзёры шансон ад радыё «Рокс». Едзем без мігцелак, але на месцы мы ўжо праз 12 хвілін.

Немалады мужчына сядзіць у брудным пакоі на разабранай пасцелі. Дрыготкім голасам скардзіцца на боль у левым баку. Мужчына відавочна п'яны. Ля ложка ляжаць дзве пустыя бутэлькі: адна ад гарэлкі, другая — ад таннага «чарніла». У куце разламаны журнальны столік. На вялікім стале побач стаяць вялікая шыльда з цытатай з Псалтыра: «Сэрца чыстае ствары мне, Божа» і талерка з рэшткамі вінегрэту, пустая чарка ды брудны відэлец.

Мужчына здымае рваную майку, прыгаворваючы: «Ой, боля-боль...». Выцягваецца на ложку. Аляксандр, фельчар, чапляе на яго худыя грудзі прысоскі кардыёграфа.

«Толькі не кажыце, што ў мяне інфаркт», — некалькі разоў паўтарае мужчына.

Але ўсё ў парадку — звычайная неўралгія.

«Што?» — перапытвае наш хворы.

«Неўралгія», — з цяжкасцю паўтарае яму ці то жонка, ці то сужыцелька.

Яна таксама «пад мухай».

«Там яшчэ з нагой у яго праблемы», — паведамляе дактарам жанчына.

І сапраўды: адна нага ў пацыента ад калена і ніжэй нездаровага цёмнага колеру.

Доктарка, Святлана Міхайлаўна, раіць звярнуцца да хірурга — у мужчыны праблемы з сасудамі.

«Яна ад 2006 года сіняя», — паціскае плячыма той.

Марына, фельчарка, дае мужчыну таблеткі, потым робіць укол абязбольвальнага. На ўсякі выпадак здымаюць яшчэ адну кардыяграму. Усё нармальна. І мы з'язджаем.

«Выклікаў ад п'яных многа, — кажа Аляксандр. — Бывае, і палова за змену».



Доктарка Святлана Міхайлаўна, фельчары Аляксандр і Марына каля свайго працоўнага аўтамабіля.

### «Раніцай жонка з працы вернецца — мне ж... будзе»

Нас ужо чакае наступны выклік — жанчына страціла прытомнасць. Прыязджаем, падымаемся ў кватэру. Дзверы адчыняе ўсхваляваны мужчына сярэдніх гадоў. У пакоі на ложку ляжыць ледзь-ледзь прыкрытая коўдрай жанчына. З адзення на ёй толькі напалову сцягнуты станік.

Ні хто яна, ні як яе завуць, ні дзе ён з ёю пазнаёміўся гаспадар кватэры адказаць не можа.

«Раніцай жонка з працы вернецца — мне ж... будзе, — заклапочана кажа ён. — Гэтую трэба вывозіць».

Жанчыне даюць панюхаць нашатыр, б'юць па шчоках, круцяць мочкі — аніякай рэакцыі. Святлана Міхайлаўна зазірае ёй у вочы, і кажа: «Алкагольная кома».

«Выпіла няшмат, і водкі я ёй нармальнай наліў, — здзіўляецца гаспадар. — Не, калі яна не падохне, то хай ляжыць, я раніцай яе адпраўлю».

Але пакідаць жанчыну нельга, трэба везці ў бальніцу. Пытаемся ў мужчыны, дзе рэчы ягонай «сяброўкі». У адказ ён толькі паціскае плячыма.

«Што, яна так прыйшла, без трусоў?» — пытаецца фельчар.

«Не, ну трусы... Хе-хе»... — лыбіцца мужчына.

А потым яшчэ раз перапытвае: «А не падохне яна тут, у мяне дома? Мяне жонка заб'е заўтра!»

У жанчыны бяруць кроў на цукар, робяць кардыяграму. Аналізы ў норме.

«Не падохне яна тут? — у чарговы раз пытаецца мужчына і ўздыхае: — Трэба жыць сямейным жыццём».

Ніякага адзення знайсці так і не ўдаецца. Жанчыну кладуць на брызентавыя насілкі. Гаспадар кватэры дае стары ручнік, каб прыкрыць «сяброўку». Пачуўшы, што яе забіраюць, мужчына ажыўляецца: «Дапамагчы вынесці? Я з задавальненнем!»

Але з'яўляецца яшчэ адна праблема. Не хапае рук. «Ідзіце, шукайце яшчэ кагосьці», — кажа доктар гаспадару кватэры. Зразумела, што «паліцца» перад суседзямі той не хоча. Таму адразу мяняе погляды.

«Дык, можа, няхай тут паляжыць да раніцы? — прапануе ён. — Калі яна не падохне?»

«Ідзіце і шукайце мужчын», — кажа яму фельчарка Марына.

Гаспадар з неахвотай выходзіць з кватэры, але хутка вяртаецца. Па яго словах, паклікаць няма каго. «Калі нікога не можаце знайсці, то, можа, нам паспрабаваць?» — прапануе Святлана Міхайлаўна.

Мужчына зноў сыходзіць і праз некалькі хвілін вяртаецца з суседам. На твары ў памагатага напісана гісторыя доўгай і беспаспяховай барацьбы з зялёным змеем.

Высвятляецца, што сусед і «падагнаў» свайму сябру гэтую жанчыну. Але нічога аб ёй сказаць ён таксама не можа.

«Падставіў ты мяне, скаціна, з гэтай бабай», — кажа яму гаспадар.

«Ды адкуль жа я ведаў, што яна слабая такая? — апраўдваецца сусед. А потым удакладняе: — А мы куды яе? У морг?»

Учацвярых мы зносім незнаёмку ў машыну хуткай. Яе адвязуць у бальніцу, у таксікалагічнае аддзяленне. Аналізы добрыя, жыць будзе.

«Пацалуеш на развітанне?» — пытаецца ў няўдачлівага палюбоўніка Аляксандр.

«Ды пайшла яна на ***!» — у сэрцах адказвае той.

### 30 брыгад

Каля 23.00 вяртаемся на станцыю. Калі будзе наступны выклік, невядома. Брыгады інтэнсіўнай тэрапіі ці, як кажуць самі лекары, бітаўцы, ездзяць толькі па сур'ёзных справах.

Увогуле, служба хуткай дапамогі працуе так. Усяго на трохсоттысячны Брэст дзяжурыць 30 брыгад хуткай. З іх — 7 брыгад інтэнсіўнай тэрапіі, 4 «дзіцячыя» брыгады, адна — «псіхічная». Астатнія — лекарскія і фельчарскія.

На самыя простыя выклікі — тэмпература, ваніты — выязджаюць фельчарскія брыгады. Яны складаюцца з фельчара і санітаркі. На справы складанейшыя — праблемы з сэрцам, ціскам — брыгады лекарскія (лекар і фельчар). На самыя сур'ёзныя выклікі ездзіць бітаўцы — доктар і два фельчары займаюцца неадкладнымі праблемамі з сэрцам, пагрозамі інфарктаў, інсультаў. Паралічы, тапельцы, самагубцы, буйныя крывацёкі, траўмы ў ДТЗ — усё гэта чакае іх. Брыгады адрозніваюцца нават аўтамабілямі: фельчарская брыгада можа ездзіць на старым уазіку, лекары — на «Газелі», а інтэнсіўная тэрапія перасоўваецца на новых і цалкам абсталяваных «Сітраенах» і «Рэно».

Але калі ўсе бітаўцы занятыя, на экстранны выклік едзе любая брыгада. Яна пачынае аказваць неабходную дапамогу, а там ужо пад'язджае інтэнсіўная тэрапія і пераймае эстафету.

Колькасць выклікаў за дзяжурства — велічыня непастаянная. Напрыклад, удзень за 12 гадзін было 262 выклікі. Большасць, як правіла, не дужа сур'ёзныя: тэмпература, ціск. Але і тут нельга расслабляцца. Доктар павінен быць гатовы да ўсяго.

«Бывае, выклікаюць амаль што на інсульт, а там нічога страшнага. А бывае і наадварот — едзеш на дробязь, а на справе ратуеш чалавеку жыццё», — кажа дзяжурны доктар Наталля Іванаўна, кіраўніца змены.

Кіраўніца змены ўвесь час на станцыі. Яна размяркоўвае выклікі, праглядае карткі, якія запаўняюць брыгады. Калі дзяжурны бачыць небяспечную сітуацыю, то можа сам загадаць, каб да пацыента заехалі яшчэ раз, праверыць, ці ўсё ў парадку. Гэта называецца адправіць брыгаду «на актыў».

Усе выклікі дзеляцца на тры катэгорыі. Неадкладныя, калі зразумела, што праблема не надта сур'ёзная, накшталт тэмпературы, могуць пачакаць да гадзіны. Тэрміновыя выклікі — калі пачакаць трошкі можна, але непажадана — арытмія, траўмы, вынікі бойкі. Брыгада мусіць атрымаць сігнал праз 15 хвілін. У выпадку экстранных выклікаў брыгада павінна выехаць ужо праз чатыры хвіліны. Пакуль у спісе некалькі скаргаў на тэмпературу, боль па ўсім целе, выклік на перавозку парадзіхі. З гэтым справяцца лекарскія і фельчарскія брыгады. Для бітаўцаў пакуль нічога — мы чакаем.

### Беларускія таблеткі не дапамагаюць

Наступны выклік паступае амаль праз паўтары гадзіны. 40-гадовы мужчына з астмай і прыроджаным пароком сэрца адчуў сябе дрэнна. Мы прыязджаем у дагледжаную чыстую хату. Мужчыну сапраўды ніякавата, ён дыхае са свістам і не можа нават легчы, каб зрабіць кардыяграму. Гэта ўжо не вясёлыя прыгоды з алкаголікамі — брыгада дзейнічае хутка і дакладна, без усякіх жартаў. Пакуль мужчыну дапамагаюць, яго маці плача дактарам пра айчынныя лекі.

«Выпісалі айчыннае — па рэцэпце на яго зніжка 50%, бо ў яго хранічная хвароба, але яно не дапамагае, выклікалі хуткую кожныя тры дні. І вось аднойчы прыехала брыгада, і самі кажуць: ну купіце лепш нямецкае. І сапраўды стала лепш», — кажа старая.

Мужчыну лепшае. Мы збіраем рэчы і вяртаемся на станцыю.

Нагэты раз чаканне выкліку зацягваецца. Брыгада разыходзіцца — хтосьці ідзе ў пакой адпачынку, хтосьці глядзіць тэлевізар у невялікай сталовай. Спаць забаронена, хоць вытрымаць суткі і цяжка. Тым больш, што многія бяруць больш за стаўку, каб хоць трошкі зарабіць.

Заробак у фельчараў невялікі. У Аляксандра — 4 мільёны, у Марыны — 4,5 (1 даляр на сёння = 15 000 рублёў). Пры гэтым яна працуе на 1,25 стаўкі і мае 20-гадовы стаж. Больш зарабіць цяжка. Хіба што працаваць на паўтары стаўкі, але, як кажуць самі медработнікі, — гэта амаль дома не бываць.

Аляксандр ужо дзесяць гадоў працуе на хуткай. Кажа, адзін з важных фактараў — гэта зручны графік: суткі праз трое. У вольны час з жонкай займаюцца дробным бізнэсам: у жонкі ІП, гандлююць адзеннем і абуткам. Знакаміты ўказ №222 выклікае ў Аляксандра абурэнне.

«Збіраліся баставаць на рынку, але будзем ці не — пакуль не вырашылі. Сертыфікацыя тавару каштуе дзікіх грошай, — апавядае ён. — Ездзіў я на дзяржаўную аптавую базу. Цэны — можна ўпасці. Я прадаю туфлі за 200 тысяч, а ў іх толькі закупачная цана на такія ж туфлі — 230 тысяч. Як я іх прадам? Хто іх купіць?»

Больш за ўсіх зарабляе доктарка: Святлана Міхайлаўна атрымлівае 8—8,5 мільёна. Але ёй ідуць надбаўкі за 20-гадовы стаж і за кваліфікацыю рэаніматолага.

Летась на брэсцкай станцыі таксама збіралі подпісы, каб звярнуць увагу ўладаў на сваё становішча. Заробак пасля паднялі — на дзвесце тысяч...

### Бальніца — гэта крайняя мера

«Вам трэба было з намі ўдзень паездзіць, — кажа Святлана Міхайлаўна. — Вось там было б на што паглядзець. А сёння ноч ціхая».

Увогуле, за змену на хуткай можна наглядзецца гісторый цікавейшых, чым у кінафільмах. Напрыклад, распавядае доктар, удзень яе выклікалі сваякі няўдалага самагубцы. Хлопец накінуў пятлю на люстру, а тая абарвалася. Падштурхнуў яго да гэтага выпадак з сужыцелем матулі — той пэўны час таму прынёс у хату нейкія патроны. А хлопец здаў іх у міліцыю. Сужыцель не стаў чакаць разбіральніцтва і павесіўся. Зараз жа хлопца накрыла пачуццё віны, і ён вырашыў зрабіць тое ж самае.

Ноч сапраўды ціхая. Чарговыя выклікі з'яўляюцца толькі раніцай.

А 6-й едзем да 80-гадовай бабулі, якая наракае на сэрца. Затым вяртаемся на станцыю, праз гадзіну з'яўляецца новая нагода — у 50-гадовага мужчыны арытмія. Ад шпіталізацыі ён адмаўляецца. Кажа, працы шмат, справаздачы трэба здаваць. Дактары папярэджваюць, што лепш яму паехаць адразу ў бальніцу: збой сардэчнага рытму — гэта не жарты. Мужчына адмаўляецца. На дзіва яго падтрымлівае і малады — гадоў 25—30 — сын.

«Чаго яму ехаць? Бальніца — гэта ж крайняя мера», — кажа хлопец.

Гэтыя людзі не звыклі быць нахлебнікамі.

Што тут зробіш? Доктар абяцае перадаць інфармацыю аб праблемах з сэрцам у паліклініку, і сёння да мужчыны завітае ўчастковы. Таксама папярэджваюць, што, калі на працягу шасці гадзін праблемы не пройдуць, трэба збіраць рэчы, выклікаць хуткую і ехаць у бальніцу. Мужчына з неахвотай пагаджаецца.

Змена амаль скончылася — застаецца некалькі хвілін. Я развітваюся са Святланай Міхайлаўнай, Марынай і Аляксандрам. Мяне перахоплівае новы дзяжурны доктар і на ўсякі выпадак заводзіць пагутарыць з загадчыкам. Мне расказваюць пра добрае абсталяванне на машынах і павелічэнне заробкаў. Але, прызнае заведуючы, людзей бракуе — на 244 пасадах працуе толькі 161 чалавек.

«Але гэта сапраўдныя патрыёты сваёй справы», — дадае ён.

Вось з гэтым я пагаджуся.

# «Адносіны з ЕС цяпер не такія туманныя»


Міністр замежных справаў Уладзімір Макей сустракае гасцей.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Пасля працяглага перапынку ў Мінск сталі завітваць **заходнія дыпламаты.**

Вайна ва Украіне і нядаўні «Мінскі саміт» дазволілі еўрапейскім палітыкам ітэнсіфікаваць адносіны з афіцыйным Мінскам. На працягу тыдня сталіцу Беларусі наведвалі прэзідэнт Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця Сума Чакрабарці, міністр замежных справаў Латвіі Эдгарс Рынкевічс. Ну і нарэшце намеснік генеральнага сакратара Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў Хельга Марыя Шмід. Сапраўдны прарыў пасля доўгага ігнаравання.

Лукашэнка падчас сустрэчы з Хельгай Шмід сказаў, што Беларусь разлічвае на пачатак добрага дыялогу ў адносінах па лініі Беларусь — ЕС. «Спадзяюся, гэта пачатак нашага добрага дыялогу з Еўрапейскім саюзам. Думаю, што гэта рэч патрэбная, гэта рух у правільным кірунку. Прынамсі, адносіны паміж Беларуссю і Еўрапейскім саюзам сёння не такія туманныя, як раней», — заявіў кіраўнік краіны.

Ён таксама даў высокую ацэнку прафесійных якасцяў кіраўніка прадстаўніцтва Еўрасаюза ў Беларусі Майры Моры.

«У вас тут добры пасол і, я думаю, аб'ектыўны чалавек, які вам дасць абсалютна аб'ектыўную інфармацыю аб працэсах, якія адбываюцца ў Беларусі. Гэта, напэўна, адзін з нямногіх заходніх паслоў, якога грамадства прымае і ўспрымае. Таму я ўдзячны Еўрапейскаму саюзу за такіх людзей, якія, прынамсі, спрабуюць зразумець, чым жыве Беларусь», — адзначыў беларускі лідар.

Хельга Шмід — высокапастаўлены еўрапейскі дыпламат. Яна працавала ў дыпслужбе ЕС і за часоў Саланы, і за часоў Эштан. Калі ў 2009 годзе Хаўер Салана сустракаўся з Аляксандрам Лукашэнкам, на спатканні прысутнічалі яшчэ два чалавекі — яна і Уладзімір Макей.

**ЗП**

# Затрыманні падчас акцыі да Дня роднай мовы на плошчы Якуба Коласа ў Мінску

У цэнтры Мінска міліцыя затрымала пяць сябраў грамадскага аб'яднання «Альтэрнатыва» (зарэгістравана ў Латвіі). Інцыдэнт здарыўся каля 12 гадзін у пятніцу 20 лютага ля плошчы Якуба Коласа, падчас расклейкі плакатаў да Дня роднай мовы. Пяцёра актывістаў выйшлі на праспект Незалежнасці і толькі паспелі наляпіць адзін плакат з Пагоняй і бел-чырвона-белым сцягам, як іх адразу затрымалі некалькі супрацоўнікаў міліцыі ў цывільным. Маладых людзей хуценька справодзілі ў арку дома і паставілі тварам да сцяны, чакаючы міліцэйскага мікрааўтобуса. Разам з актывістамі была затрымана праходзячая міма дзяўчына – дырэктарка прыватнай фірмы ў Мінску. Яе адпусцілі толькі пасля праверкі ў РУУСе.

Для праверкі дакументаў і складання пратаколаў усіх адвезлі ў Савецкі РУУС Мінска. Непаўнагадовага Дзяніса Самсончыка, пасля дагляду рэчаў, адправілі для пастаноўкі на ўлік Інспекцыі па справах непаўнагадовых. Як стала вядома пазней, міліцыя ведала аб запланаванай акцыі – на месцы дзяжурыла пяць супрацоўнікаў у цывільным.

Актывісты ГА «Альтэрнатыва» Сяргей Качура і Уладзіслаў Запасаў аштрафаваныя на 50 базавых велічынь (9 млн. рублёў) кожны. Суд Савецкага раёна ў дзень затрымання прызнаў іх вінаватымі ў непадпарадкаванні законным патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі. Затрыманыя разам з імі Вольга Жураўлёва, прэс-сакратар «Альтэрнатывы» Вольга Бурневіч і фотакарэспандэнт «Нашай нівы» Сяргей Гудзілін адпушчаныя з РУУС без складання пратаколаў праз тры гадзіны пасля затрымання.




**ГС**

# У Беларусі быў «згуляны» матч-прывід

**Генеральны пракурор** узяў справу пад свой кантроль.

Абсалютна дэтэктыўная гісторыя разгортваецца апошнім часам у беларускім футболе. З лютага многія букмекерскія канторы прымалі стаўкі на таварыскую сустрэчу паміж салігорскім «Шахцёрам» і «Слуцкам». Нічога дзіўна, што геаграфічныя суседзі вырашылі правесці такую сустрэчу.

У выніку прайшло паведамленне, што случакі перамаглі 2:1. Прычым абодва галы былі забітыя напрыканцы сустрэчы, а амаль усю гульню ў ліку вялі «гарнякі». Інфармацыя пра матч нават з'явілася на сайце «Шахцёра»

Аднак потым высветлілася, што такой гульні... не існавала ў прыродзе. Гэтая гісторыя прыцягнула ўвагу ўсяго свету. Англійскае выданне The Telegraph піша, што спектакль быў разыграны для букмекераў, якія панеслі немалыя страты праз гульню-фантом. Прычым выплаты рабіліся толькі пасля таго, як у «Слуцку» пацвердзілі сапраўднасць сустрэчы. Зноў дзіва, але случакі бажацца, што ніхто не вёў перапіску з букмекерамі. Кіраўніцтва салігорскага «Шахцёра» кажа, што інфармацыя аб гульні на сайце з'явілася праз хакерскую атаку.

Выходзіць нейкае ідэальнае злачынства, знайсці канцы ў якім не так і проста. Цяпер вядома, што гэты матч на кантроль узялі беларускія сілавікі. Пра гэта заявіў генеральны пракурор Аляксандр Канюк.

**Зміцер Панкавец**

За апошнія пару гадоў гэта ўжо чацвёрты зафіксаваны матч-прывід.

Першымі шэраг адкрылі іспанская і партугальская каманды ніжэйшых дывізіёнаў — «Фрымунда» і «Панферадзіна». Праўда, потым высветлілася, што матч адбыўся, але згулялі зусім іншыя клубы.

Другім такім матчам аказалася сустрэча моладзевых зборных Мальдываў і Туркменістана.

Ну і зусім нядаўна перад Беларуссю нешта падобнае здарылася ў Арменіі. «Уліс» і «Гандзаспор». Гэтыя матч, якога не было, «адбыўся» ў студзені 2014 года.

Злачынцы адкрываюць новыя гарызонты для махлярства.

Меркаванне

# Колькі можна пераключацца на расейскую?



Піша **Віталь Цыганкоў**.

Калісьці на пачатку 90-х я размаўляў са сваім аднакурснікам з факультэта журналістыкі.

«З мовай у нас усё будзе цудоўна. Мы апошняе пераходнае пакаленне — ужо нашы дзеці будуць гаварыць пераважна на беларускай мове», — казаў мой аднакурснік. «Хацеў бы ў гэта верыць, але баюся, што не ўсё так проста», — адказаў тады я. Вядома, з гледзішча цяперашняга становішча мовы мой тагачасны песімізм здаецца натуральным і відавочным, але тады якраз больш рэальным выглядаў аптымістычны прагноз майго прыяцеля. Сапраўды, у Беларусі, якая стала незалежнай, была адна дзяржаўная мова, дзейнічаў закон, паводле якога ўсе ўстановы паступова пераводзіліся на беларускую мову, большасць школьнікаў хадзілі ў беларускамоўныя школы ці класы. Здавалася, усё пойдзе цудоўна, але ж — «лёс склаўся так».

Моўнае пытанне ў нас вечнае, але ў цяперашнім беларускім жыцці — гэта якраз ці не адзіная сфера, дзе банальная формула «усё залежыць ад нас» мае найбольшае права на існаванне. Мы не можам сказаць гэта пра палітыку, пра эканоміку, культуру, але мова — гэта якраз тое, дзе можна цалкам адчуваць сябе «гаспадаром свайго ўласнага лёсу».

І дзіўна, што хапае людзей, якіх даўно не трэба ні ў чым пераконваць, якія добра валодаюць беларускай мовай, разумеюць яе важнасць, гатовыя за яе гарою ўстаць, але... напрыклад, пішуць у сваім фэйсбуку па-расейску.

Вось я гэтага шчыра не разумею. Я ж зусім не максімаліст, я не кажу пра публічнае зацятае змаганне, пра штохвілінную беларускамоўнасць з кожнай прадаўшчыцай і цырульніцай. Я кажу пра допісы на ўласнай старонцы ў сацыяльнай сетцы, дзе мы «на сваёй тэрыторыі». Ты сам вызначаеш тут свае правілы, ты запрашаеш да сябе людзей: што табе замінае пісаць тут па-беларуску?

**Мова — гэта якраз тое, дзе можна цалкам адчуваць сябе «гаспадаром свайго ўласнага лёсу»**



Дарэчы, дзе тыя людзі, якія пасля пачатку падзеяў ва Украіне ўрачыста абвяшчалі на ўвесь «Фэйсбук», што цяпер, на фоне расейскай агрэсіі, будуць пісаць толькі па-беларуску? Колькі яны пратрымаліся — пару тыдняў?

А яшчэ прыкольна, калі чалавек піша беларускамоўныя тэксты, а прэзэнтуе іх на сваёй старонцы ў тым самым «Фэйсбуку» на расейскай мове. Гэта вось што? Ён думае, што чытачы ягонага беларускамоўнага тэксту не разумеюць беларускай мовы?

Наша беларуская моўная «талерантнасць» выглядае прыблізна так: кампанія з некалькіх людзей размаўляе на беларускай мове. Падыходзіць адзін расейскамоўны (не замежнік, а беларус) — і ўсе пераключаюцца на расейскую.

Ну, ціпа талерантнасць. Гэта не талерантнасць — гэта комплекс віны і непаўнавартасці. «Ой, прабачце, што мы па-беларуску, мы зараз жа пераключымся». А самае смешнае, калі той рускамоўны ім і кажа: «А чаго вы перайшлі на расейскую, гаварыце па-беларуску, мне гэта падабаецца».

Ці яшчэ сітуацыя. Сядзіць творчы калектыў, абмяркоўвае, напрыклад, прэтэндэнтаў на Гедройца, апошнюю прэм'еру ў Купалаўскім ці яшчэ нешта не менш высокае. А тут у кабінет уваходзіць слесар ці электрык — карацей, «чалавек звонку», «чалавек адтуль». І тут увесь творчы калектыў адразу з ім па-расейску. Ну як жа ж інакш, «чалавек звонку» апрыёры не можа гаварыць па-беларуску. Дый для многіх членаў творчага калектыву іхняя беларускамоўнасць заканчваецца сценамі працоўнага кабінета.

Ці выхаванне дзяцей на беларускай мове.

Пачытаеш некаторыя артыкулы — дык гэты працэс прыроўніваецца ледзь не да подзвігу, што адразу, натуральна, адпалохвае нерашучых людзей. Не ведаю, мы выхоўвалі дзіця беларускамоўным з першай хвіліны ягонага жыцця і, па шчырасці, не заўважылі ў гэтым нічога асабліва цяжкага ці гераічнага.

Бывае, чытаеш у «Фэйсбуку» расейскамоўную дыскусію некалькіх чалавек. Тут да яе далучаецца нехта на беларускай мове, і раптам («Ой, а чаго гэта мы?») усе ўдзельнікі пераключаюцца на беларускую. Ім проста, як сапраўдным беларусам, патрэбны знешні штуршок.

Праўда ў тым, што нават многія беларускамоўныя людзі дагэтуль успрымаюць карыстанне беларускай мовай як нешта не-нармальнае, не-звычайнае, не-ардынарнае, сітуацыйнае. Трэба проста прыняць, што беларуская мова — гэта норма. І ўсё стане на месца.

**Радыё «Свабода»**

# Маразоў больш не чакаецца

Гэтыя зіма была **анамальна цёплай**.

Можна лічыць, што зіма ў Беларусі скончылася. Снежнае покрыва засталося збольшага толькі на лініі Мінск—Вільня і на паўночнай частцы Віцебшчыны.

У бліжэйшыя дні па большай частцы Беларусі тэмпература не будзе апускацца ніжэй за нуль удзень, уночы дасягне —2°С. Да канца каляндарнай зімы будзе пераважна воблачна, магчымыя дажджы і мокры снег. Напачатку сакавіка тэмпература таксама будзе трымацца каля нуля, сонечна стане праз тыдзень.

Сярэдняя тэмпература ў снежні 2014 года па Беларусі склала —2,5°С, што вышэй за норму на 1,5 градуса. Пра гэта «НН» расказала Алена Тамароўская, начальнік аддзела клімату Гідраметцэнтру.

Студзень быў цяплейшы за норму на цэлых 5,6 градуса — сярэдняя тэмпература за месяц склала —1,1°С. Так цёпла ў студзені бывае прыкладна раз на 15 гадоў, такі тэмпературны рэжым характэрны для сакавіка. Максімальная тэмпература назіралася ў Брэсце 17 студзеня — +9°С.

Верагодна, і люты перавысіць норму — у першай дэкадзе сярэдняя тэмпература была на 4 градусы вышэйшай за норму, другая дэкада таксама была дастаткова цёплая.

Такая тэмпература ўпісваецца ў агульную тэндэнцыю. «Зараз усе кажуць аб пацяпленні клімату, мы аб гэтым кажам таксама. У Беларусі пацяпленне, як мы лічым, пачалося 1989 годам, які быў адным з самых цёплых, і працягваецца яно дагэтуль», — кажа Алена Уладзіміраўна. Адзінае выключэнне — 1996 год, калі сярэднегадавая тэмпература была крыху ніжэйшай за норму. Мінулы, 2014, год трапіў у пяцёрку самых цёплых. «Верагодна, пацяпленне будзе і далей працягвацца», — мяркуе яна.

**Аляксандр Арсёнаў**


PITER.TV

# Ала Пугачова прэзентавала песню «Вайна»

У інтэрнэце з'явілася песня «Вайна» ў выкананні вядомай расійскай спявачкі Алы Пугачовай.

Аўтарам кампазіцыі з'яўляецца пскоўскі каваль Яўген Вагін. Дыск са сваімі песнямі ён перадаў Пугачовай праз Максіма Галкіна ў 2014 годзе і не спадзяваўся, што Прымадонна выканае адну з іх, піша korrespondent.net.

У эфіры «Рускага радыё» Ала Пугачова расказвала, што песня падкупіла яе праўдай і сумленнасцю. «Усяму свой час. Трэба спяваць тое, што адчуваеш. Я ўвогуле як птушка: не спяваю, калі гарматы лупяць. А зараз мяне зачапіла ўсё гэта», — сказала спявачка.

«Калі я пісаў музыку, я сабраў абагульнены вобраз вайны. Усе войны аднолькавыя — у іх няма нічога, акрамя жорсткасці, бессэнсоўнасці і гвалту. У песні пра гэта і напісана», — распавёў у інтэрв'ю аўтар песні Яўген Вагін.



Война — слово женского рода, а идут на войну мужики,
И смерть тоже бабья порода, венчаться с ней не с руки.
Но свинцовым кольцом обручила,
по-хозяйски землей прибрала,
И рана кровью точила мужские тела добела.

Прыпеў:
И ты помни, помни, помни поименно павших солдат,
Ведь мы знали, знали, знали многих из этих ребят.
И ты мог бы, мог бы, мог бы оказаться на месте его,
Если б он не ушел тебя защищать, не жалея себя самого.

В душе пуля-дура стыла, то место прикроет медаль,
И память по-бабьи завыла, спугнув птицей боль и печаль.
По-женски судьба изменила мужчинам, отцам и юнцам,
Война, что же ты натворила?
Любовница ты без лица!

Прыпеў
И ты помни, помни, помни поименно павших солдат,
Ведь мы знали, знали, знали многих из этих ребят.
И ты мог бы, мог бы, мог бы оказаться на месте его,
Если б он не ушел тебя защищать, не жалея себя самого.

И как могло так случиться — жестокость, смерть и война?
То в двери, то в окна стучится,
кто им женские дал имена?
Почему рода женского беды?
Но верит скорбящая мать,
что женское слово «победа» мужчинам не даст воевать!

Прыпеў:
И ты помни, помни, помни поименно павших солдат,
Ведь мы знали, знали, знали многих из этих ребят.
И ты мог бы, мог бы, мог бы оказаться на месте его,
Если б он не ушел тебя защищать, не жалея себя самого.



# Зорка «Гары Потэра» Эма Уотсан зачаравала брытанскага прынца



Высветлілася, што ў Гары і Эмы ёсць агульныя сябры, праз якіх прынц і прызначыў Уотсан сустрэчу. Аднак паўнавартасным спатканне назваць пакуль нельга — яны сустрэліся ў кампаніі 12 сяброў. Па словах відавочцаў, халасцяк быў цалкам зачараваны актрысай.

Брытанскія таблоіды не выключаюць, што ў прынца і кіназоркі можа здарыцца раман, тым больш што на дадзены момант у Эмы і Гары няма каханых.

Журналісты адзначаюць, што Эма Уотсан ужо знаёмая з роднымі прынца. З яго старэйшым братам прынцам Уільямам яна сустракалася летась на дабрачынным мерапрыемстве. Паспела акцёрка асабіста пазнаёміцца і з іх бацькам прынцам Чарльзам.

Эма Уотсан заслужыла сабе славу дзякуючы ролі Герміёны ў фільмах пра Гары Потэра.

**Сямён Цыбульскі**

# Мінсувязі захацела атрымаць прыбытак ад Skype і Viber

Аб гэтым заявіў на прэс-канферэнцыі міністр сувязі **Сяргей Папкоў**.

«У нас ёсць рабочая група, і мы будзем прапаноўваць ураду нейкія прылады для таго, каб у нейкай частцы манетызаваць паслугі Skype, Viber і іншых падобных тэхналогій», — кажа Папкоў.

Па словах міністра, змяншэнне прыбытку аператараў сувязі (у прыватнасці «Белтэлекама») ад месенджараў складае 10—15%.

Падобных да Skype месенджараў міністр налічыў 11. На яго думку, такія кампаніі не ўкладаюць ані цэнта ў развіццё тэхналогій. Па словах Папкова, 1% карыстальнікаў займае 50% шырыні інтэрнэт-шлюзу праз прагляд відэа, «танкі» (верагодна, маюцца на ўвазе анлайн-гульні) і месенджары.

Skype, Viber і іншыя месенджары дазваляюць не толькі абменьвацца паведамленнямі. Праз іх можна здзяйсняць бясплатныя аўдыё- і відэавыклікі між карыстальнікамі месенджара, а таксама за невялікую плату тэлефанаваць праз інтэрнэт на мабільныя і стацыянарныя тэлефоны па ўсім свеце.

«Белтэлекам» мае ўласны Android-месенджар «Максіфон», але яго ўсталявалі не больш за 5 тысяч разоў, што далёка ад папулярнасці Viber ці Skype.

**АА**

# «У нас 20 гадоў усё расце і расце, а мы ўсё адстаём і адстаём»

У Тэрэспалі мяса і сыр можна купіць у паўтара раза танней, чым у Брэсце. Цэны на хлеб і малако ў Тэрэспалі і Брэсце зраўняліся. Але ж пенсіі ў Польшчы разы ў два-тры большыя, чым у нас!

У мяне акцыі «Савушкавага прадукту», дык дулю я з іх меў. А мой траюрадны брат у Тэрэспалі мае акцыі польскага мясакамбіната, дык кожны год мае сабе «на урлёп» (г.зн. па-польску «на водпуск» — НН), на Балтыку ездзіць.

Як так выйшла, што ў нас 20 гадоў усё расце і расце, а мы ўсё адстаём і адстаём?

**Пенсіянер, Брэст**

### Ад рэдактара

Паведамляйце ў «Нашу Ніву» пра ўсе цікавыя ці, наадварот, абуральныя факты.

У большасці выпадкаў публікацыя ў незалежнай газеце аўтаматычна прыводзіць да выпраўлення сітуацыі. Але для гэтага ў Вашым паведамленні мусіць быць канкрэтыка, а Вашы нараканні павінны быць законнымі і справядлівымі.

Пішыце, як Вам зручна: на электронную пошту, у скайп, пісьмом ці праз форму на сайце NN.BY.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**

**e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29 Skype: nashaniva**

## «Славу» і «Украіне» на самай справе завуць Маруся й Булачка

12 лютага карэспандэнт «Нашай Нівы» стаў сведкам наступнай сцэнкі (№7). Журналісты стаяць ля плота каля рэзідэнцыі на вуліцы Фрунзэ, дзе ідуць перамовы кантактавай групы па Украіне. Жанчына шпацыруе з двума сабачкамі. Яны з нейкай прычыны пачынаюць моцна брахаць у бок журналістаў. «Как их зовут-то?» — пытаецца аператар Lifenews. «Гэтая — Слава, а вось тая — Украіне. Зразумелі?» — адказвае гаспадыня.

На наш допіс пра гэта адгукнулася гаспадыня сабак.

«Гэтых сабачак на самай справе завуць Маруся й Булачка, — напісала нам Кацярына з Мінска. — Гэта вестхайленд-уайт тэр'еры, еўрапейская парода, таму шануюць еўрапейскія каштоўнасці — свабоду й незалежнасць. З павагай да ўсіх, хто пажадаў маім дзяўчаткам здароўя!»

**Палеміка**

# Трусаў: Навумчык блытае боб з гарохам

Шаноўны сп. Навумчык вырашыў стаць адзіным і непаўторным гісторыкам БНФ і балюча рэагуе («НН» №7) на выказванні тых, хто мае сваё асабістае бачанне на тыя падзеі, якія і прывялі Беларусь да незалежнасці.

Дарэчы, менавіта Навумчык пакрысе стварае розныя міфы пра дзейнасць БНФ, маючы ў Празе значна большыя магчымасці, чым тыя сябры аргкамітэта БНФ, якія жывуць і працуюць увесь час на Беларусі. Таму я мушу чарговы раз запярэчыць нашаму пражскаму сябру.

Пасяджэнні Дэмклуба ў ВС БССР у 1990 годзе, асабліва ў красавіку— чэрвені адбываліся рэгулярна, а «не добра, калі два разы», як піша Сяргей Навумчык. Менавіта з Дэмклуба прыйшла ў апазіцыю БНФ Галіна Сямдзянава і некаторыя іншыя дэпутаты.

А цяпер пра ролю камуністаў. У аргкамітэце БНФ, створаным 19 кастрычніка 1988 г., камуністаў было не менш за палову. Тое ж можна сказаць і пра апазіцыю на платформе БНФ у 1990 годзе. Дарэчы, камуністам быў і сам Сяргей Навумчык, а яго бацька — быў сакратар Віцебскага абкама КПБ, вельмі прыстойны і адукаваны чалавек, беларускі патрыёт Іосіф (Язэп) Навумчык.

Цікава, што ў прыняцці гістарычнай сімволікі Беларусі ў якасці дзяржаўнай немалую ролю адыграў і Віктар Шэйман, які потым разам з Валянцінам Голубевым быў маім намеснікам у камісіі па забеспячэнні адзінай палітыкі выкарыстання дзяржаўных сімвалаў Рэспублікі Беларусь пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Нагадаю сп.Навумчыку, што канстытуцыйная большасць у Вярхоўным Савеце складала значна болей, чым 200 галасоў. І без гэтых людзей незалежнай Беларусі не было б. І я вельмі ўдзячны ўсім тым, хто падтрымаў прапановы БНФ у жніўні, верасні і снежні 1991 года. Іх імёны павінны ведаць усе грамадзяне нашай краіны.

Прывяду некалькі прыкладаў. Калі апазіцыя БНФ прапанавала змяніць назву Мінск на Менск, нас падтрымалі 152 чалавекі (кворум для прыняцця станоўчага рашэння быў 174 галасы, а колькасць апазіцыі БНФ складала каля 30 чалавек).

У 1994 годзе беларуская мова набыла статус адзінай дзяржаўнай мовы ў краіне дзякуючы падтрымцы нефармальнага лідара ветэранскай арганізацыі ў Вярхоўным Савеце генерала Геца, чалавека сумленнага, але вялікага кансерватара.

Іншая справа, што ў 1992 і асабліва ў 1994 гадах гістарычныя і жыццёвыя шляхі гэтых людзей кардынальна разышліся. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя, спадар Навумчык.

**Алег Трусаў, намеснік старшыні апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га склікання, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, Мінск**

### Чаму патэлефанаваць праз «Вайбер» у Індыю танней, чым праз «Белтэлекам» у Беларусі?

Скажыце, чаму званкі праз скайп і вайбер, па камп'ютары, у Індыю, ЗША таннейшыя, чым званкі па кодзе праз «Белтэлекам»? А чаму званкі ў мабільных сетках такія дарагія? Зніжайце цэны на паслугі, спадары міністры!

**Іван Антонавіч, Мінск**

**Вачыма паэта**

## Беларусы ў горадзе

Шаноўная рэдакцыя! Гэтую простую побытавую гісторыю запісала я сабе для памяці. Нечакана атрымаўся такі своеасаблівы верш. Падумала: штосьці такое ў гэтым ёсць. Характэрна, сімвалічна для нашага часу.

У краме «Стужка»
Купляла сёння стужкі я і тасьмы.
Прыцэньвалася моўчкі, выбірала...
Тым часам падышла ў аддзел дзяўчына,
Звярнулася яна да прадавачкі
Без лішніх рускіх слоў, па-беларуску:
«Вунь той мне, калі ласка, белай стужкі —
За дзве пяцьсот, і той, за тры, чырвонай —
Адрэжце, калі ласка, па тры метры!»
Усё зрабіла моўчкі прадавачка —
Кошт выбіла і стужкі спакавала...
Мая чарга, і я па-беларуску
Мне паказаць прашу тасьму — «вунь тую».
(Я не была занадта лаканічнай —
Усё глядзела ды перабірала
І размаўляла з прадавачкаю «на мове».)
Дзяўчына мне ўсміхнулася вачыма,
Па-свойску, непрыкметна... Прадавачка ж
Не выказала радасці, здзіўлення,
І нават не сказала: «Как красіва!»,
І слоў ніякіх беларускіх не ўстаўляла,
Не ўспомніла, што «тожа беларуска»...
На нас глядзела хмура, непрыязна,
адчужана... І думала, напэўна:
«Няйначай, горад зноўку захапілі беларусы...»

**Святлана Багданкевіч, Мінск**

Вельмі дзякую Сяргею Ваганаву за ўспаміны пра нашу Браслаўшчыну (№4, 2015). Калі ён рыхтаваў той матэрыял, ён і мне тэлефанаваў. З вёскі Далёкія пачаўся і мой шлях у самастойнае жыццё. І стаяць тыя дні ў мяне перад вачыма…

**Сагі**

# «З вялікай дзюркі малую не зробіш»

У 1954 годзе пасля інстытута я прыехаў сюды настаўнічаць. Спадабаліся мне і школа, і людзі, і праца… Мінула 60 гадоў. У 10-м класе шмат вучняў былі старэйшыя за мяне, але, як і іх бацькі, з вялікай павагай ставіліся да маладога «пана вучыцеля». Час быў неспакойны, яшчэ дзейнічала антысавецкае падполле, і вучні прыносілі ў школу іх лістоўкі…

На самастойным хлебе найперш хацелася абзавесціся прыстойным адзеннем і абуткам. У інстытуце я насіў даматканыя штаны-паўсукеннікі (мама ткала: аснова — нітка з лёну, уток — нітка з воўны), пафарбаваныя крушынавай карой. Але ж студэнты з Усходняй Беларусі былі адзетыя яшчэ горш.

Сабраць грошы на адзенне было няпроста. Аклад — 600 рублёў, з іх 200 — на кватэру з харчам, 100 — на пазыку дзяржаве. А яшчэ цяжэй было знайсці ў продажы патрэбныя рэчы. Дэфіцыт — неад'емная прыкмета савецкай улады.

Настала зіма. Трэ' было купіць паліто. А нідзе кругом такога і блізка няма. І вось ідзе калгасная грузавая машына ў Даўгаўпілс (Дзвінск). Там вольна можна было купіць хлеб і нават батон! А вецер са снегам прадзімае наскрозь. Збіліся мы ўсе ў кучу, цiснемся адзін да аднаго. Даехалі ледзь жывыя. І там крамы амаль пустыя. Знайшоў я толькі адно зімовае паліто, але яно ў два разы большае, чым мне трэба. Паразважаў, паразважаў — і купіў. Ехаць назад, абкрыўшыся ім, стала цяплей. Але ж насіць яго нельга. Панёс яго да мясцовага краўца, каб той перашыў паліто. Але майстра пачаў адмаўляцца:



9 клас Далёкаўскай школы са сваімі настаўнікамі. Аўтар ліста — у першым шэрагу (другі злева). 1955 год.

«Паглядзі, рукаво шырокае, я яго паважу, а дзюрка, дзе яго пршываць, шырокая. З вялікай дзюркі малую не зробіш». Але ж, дзякуй яму, усё-такі неяк перашыў, і я насіў тое паліто…

Патрэбныя сталі боты. І тут я ў Опсе сустрэў земляка з Шаркаўшчыны — Базарэвіча Хасеня, татарына, якога добра ведаў. Ён крыху маладзейшы за мяне, але ўжо паспеў ажаніцца, і ў зыбцы было ўжо немаўлятка. Хасень гандляваў скурамі. І прапанаваў мне тавар на боты. Выразкі на халяву былі добрыя. А вось тавар на галоўкі неяк расцягваўся. Я яго забракаваў. Хасень стаў мяне настойліва пераконваць, што тавар добры. Я не верыў, але выбару не было. Я купіў, пашыў, насіў. Але ў мокрую пару ногі былі мокрыя…

Купіў я прыстойны светла-шэры касцюм. Але з ім здарыцца гісторыя.

Задумалі мы ў школе з калегамі адзначыць заканчэнне заняткаў. Пасядзелі за сталом, пагаманілі. І, як заўсёды, тут спатрэбілася дабаўка спіртнога. Шукаць самагонкі адправілі фізрука Бяспальку і мяне. Выйшлі мы са школы, а на дварэ поначы. І вось на вуліцы нос у нос сустрэліся са старшынёй калгаса (па прозвішчы, здаецца, Казючыц ці нешта падобнае). А Бяспалька быў выключна прынцыповы чалавек. І, як людзі казалі, будучы камуністам, на партсходах крыў Казючыца за безгаспадарчасць і за раскраданне калгаснай маёмасці. І вось яны без слоў, сходу хапаюцца за грудкі, і давай тузацца. Я не ведаю, што рабіць! Крычу: «Што вы робіце?! Перастаньце! Разыдзіцеся!»

У Бяспалькі была пустая бутэлька ў кішэні — для самагонкі. Ён выхоплівае гэтую бутэльку — і бах Казючыца па носе. Тады Казючыц, трымаючы адной рукой Бяспальку, другой стаў абціраць кроў з носа, а руку выціраць аб мой пінжак. Яўна праваказаваў мяне на бойку. А я за ўсё жыццё ніколі ні з кім не біўся. Вось была б карціна, калі б настаўнікі пабілі старшыню калгаса.

Але «байцы» неяк раптам разышліся. А я з сапсутым найлепшым сваім касцюмам пайшоў на сваю кватэру. Мой гаспадар (Пяткун Сямён Адамавіч, калі не памыляюся) казаў мне, што нашу бойку бачылі некалькі чалавек, але не падышлі, не ўмяшаліся. Мая гаспадыня кватэры спрабавала адмыць пінжак, але нейкія сляды ўсё ж засталіся…

1955 год. Калгасу давялі план пасеву кукурузы. Пасеялі яе квадратна-гнездавым спосабам (уздоўж і поперак поля — бараздкі, на іх перасячэнні ў ямкі ўкінутая кукуруза). Але пасля агледзеліся, што гэтую кукурузу паядае драцянік. Падключылі школу для яе ратавання — арганізавалі з вучняў працоўнае звяно, і мяне накіравалі з імі працаваць...

Прывезлі на поле ржавыя бочкі з нейкай смярдзючай вадкасцю. Нам трэ' было вядром чэрпаць гэтую вадкасць і кубкамі паліваць ямкі з кукурузай. Але школьнікі не праяўлялі асаблівага запалу да работы, больш прастойвала, асабліва дзяўчаты. Тады я, ідэйны камсамолец, звярнуўся да іх: «Вы ж камсамольцы! Вам даручылі такую адказную справу! Трэба спрытна працаваць». Але словы мае мала дзейнічалі. Тады я сваёй працай імкнуўся паказаць прыклад. Вычэрпваў з бочак гэтую вадкасць, а калі трэба было выліць у вядро рэшту, то бочку даводзілася падымаць на калені. Я перамазаў адзенне, добра, што гэта было не самае лепшае. Вучні моўчкі, але з нейкім жалем глядзелі на мяне…

Помню і настаўніка Уладзіміра Шарэнду, у яго яшчэ не расла барада — быў галамузы, як у нас казалі. Было ў яго дзве дачкі. Неяк дзіўнавата ён з імі сябе паводзіў: то ўшчыкне, ідучы міма, то хлопне далонню па попцы…

І апошняе. Летам, на вакацыях, да маіх у вёску Запруддзе, што на Шаркаўшчыне, нечакана завітала вучаніца 9 класа Пучынская Ядзя. Аказваецца, за 2 кіламетры ад нас, у вёсцы Старая Борць, жылі яе сваякі. І яна адтуль прыйшла паглядзець, як жывуць яе далёкі настаўнік. А мяне дома не было. Вяртаюся я дамоў, а бацька і мама, усхваляваныя, пытаюцца ў мяне: «Хто такая Пучынская Ядзя? Чаго яна прыходзіла? Што ёй трэба?» Пасля таго я ніколі не сустракаў яе…

Успаміны мае, успаміны…

**Уладзіслаў Канстанцінавіч Ляскоўскі, Шаркаўшчына (Віцебская вобласць)**

**Ад рэдактара.** Дасылайце і Вы, людзі, свае ўспаміны пра старыя часы і фотаздымкі. Хай застануцца яны на паперы, у бібліятэках.



# У багажніку «Мерседэса» знайшлі труп кіргіза з перарэзаным горлам

У Мінску забілі крымінальніка, блізкага да клана Бакіевых.

18 лютага ў багажніку «Мерседэса» ў Мінску знайшлі труп мужчыны. Дарагое аўто стаяла на вуліцы Карла Лібкнехта. Гаспадар нібыта пазычыў машыну прыяцелю. Калі той аўто не вярнуў, узяўся шукаць. А знайшоў у багажніку мужчыну з перарэзаным горлам.

«Следствам правяраюцца розныя версіі. У тым ліку пра прыналежнасць забітага да злачынных груповак. Праца па высвятленні абставін забойства і ідэнтыфікацыі асобы загінулага працягваецца», — адзначылі ў Следчым камітэце.

Пры забітым знайшлі расійскі пашпарт ураджэнца Кыргызстана. Калі копію дакумента атрымалі праваахоўнікі ў Бішкеку, на фота пазналі свайго грамадзяніна — Алманбета Анапіяева. Праўда, прозвішча ў дакуменце было іншым — Алмазбек Шакіраў. Пашпарт аказаўся згубленым сапраўдным уладальнікам, а фота — пераклееным.

Алманбет Анапіяеў нарадзіўся ў 1973-м у Ошскай вобласці. Гэта былы афіцэр міліцыі, якога звольнілі з органаў за сувязі з крымінальным светам, а ў 2003-м увогуле пасадзілі за рабаванне на восем гадоў. На свабоду ён выйшаў датэрмінова, праз тры гады. Падчас прэзідэнцтва Курманбека Бакіева Анапіяеў стаў паважаным чалавекам — узначаліў Міжнародную федэрацыю барацьбы на паясах «Алыш».

Але са зменай улады ў Кыргызстане былому міліцыянту давялося пакінуць краіну. Родная дзяржава абвесціла яго ў міжнародны вышук. Анапіяева вінавацяць у выкрадanні чалавека, разбоі і незаконным пазбаўленні свабоды.

Кыргызская міліцыя лічыць яго крымінальным аўтарытэтам. Па яе звестках, ён уваходзіў у групоўку, якая падпарадкоўвалася клану Бакіевых. Таму не выключаецца, што Анапіяеў меў дачыненне да забойства экс-кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Кыргызстана ў сакавіку 2009-га. У арганізацыі ў тым ліку гэтага забойства Курманбека і Жаныбека Бакіевых завочна асудзілі на пажыццёвыя зняволенні.

Між іншым, браты Бакіевы знайшлі прыстанак у Беларусі. Старэйшы, Курманбек, атрымаў беларускі пашпарт і купіў дом у ваколіцах Мінска.

Крымінальнік Анапіяеў, як лічыцца, апошнія гады жыў у Аб'яднаных Арабскіх Эміратах. У снежні 2014 ён быў затрыманы па лініі Інтэрпала акурат у ААЭ. Праўда, да экстрадыцыі не дайшло.

Кастусь Матушыч

# Качагар з Глуска выдае сябе за бацюшку

Ілжэсвятар збірае ахвяраванні і праводзіць рэлігійныя абрады.

Ігумен Георгій, Георгій Крот, Аляксандр Сакалоў, Аляксандр Салаўёў, Георгій Сакалоў — гэта імёны, пад якімі вядомы лжэсвятар, які аб'явіўся ў Магілёўскай вобласці. Ён выдае сябе за кліріка Грузінскай праваслаўнай царквы, Абхазскай праваслаўнай царквы, Жытомірскай епархіі Украінскай праваслаўнай царквы Маскоўскага патрыярхата. І надае сабе розныя духоўныя саны — іераманах, архімандрыт. Рэлігійныя саноўнікі ж адхрышчваюцца ад яго.

Сапраўднае імя лжэсвятара — Юрый Крот. Ён нарадзіўся ў 1985 годзе ў Глуску Магілёўскай вобласці. Да 2012 года працаваў качагарам.

Ён жа расказвае, што ў 2000—2010-м быў благачынным аднаго з мужчынскіх манастыроў ва Украіне, затым належаў да Грузінскай праваслаўнай царквы. І паказваў адпаведнае пасведчанне ігумена. Фальшывае.

У новае «прышэсце» ў Беларусі з Георгіем Кратом сутыкнуліся ў Бабруйску. Пацярпелі таксісты: вазілі маладога чалавека ў рызах, а ён не заплаціў. Аднаму кіроўцу нават падарыў на памяць Евангелле са сваім аўтографам і фотаздымак. А на адным з прыпынкаў маршруту проста не вярнуўся ў машыну. Таксіст звярнуўся ў епархію. Там і пазналі лжэсвятара.

Беларуская праваслаўная царква папярэджвае, што Крот не мае іерэйскага пасвячэння. А таму правядзенне ім богаслужэнняў і збор грошай на патрэбы царквы — гэта рэлігійнае махлярства. Вернікаў заклікаюць адразу звяртацца ў міліцыю, калі сутыкнуцца з ім.

Пра Георгія Крата ў Беларусі ўжо чулі. А некаторыя нават пазбавіліся грошай праз яго. Думалі, на добрыя справы. Але ні да царкваў, ні да манастыроў грошы, якія ён збіраў, не даехалі.

«16 лістапада 2012 года ён быў прыняты ў склад раскольніцкага рэлігійнага таварыства «Патрыярхія Расійскай сапраўды-праваслаўнай катакомбнай царквы», якую ўзначальваў пазбаўлены сану за крадзеж царкоўнай маёмасці «патрыярх Маскоўскі і Усерасійскі» Венядзікт (Малчанаў). Больш за тое, у той жа дзень Георгій Крот быў пасвечаны ў «епіскапа Мінскага і Полацкага, в. а. Экзарха ўсёй Беларусі», — расказалі ў прэс-службе БПЦ пра «кар'ерны» ўзлёт Крата.


ANTI-RASKOL.RU

Аднак праз месяц пасля такога «пасвячэння» Крот пакаяўся ў махлярстве, паабяцаў уладкавацца на працу. Але слова не стрымаў — зноў пачаў выдаваць сябе за святара. Праўда, тры гады таму раскрыць яго махлярства дапамог выпадак. У Бабруйскай епархіі тады абрабавалі храм. Па справе праходзіў і Крот. Аказалася, што да рабавання ён дачынення не меў. Але высветлілася, што ён не святар, хоць і хадзіў у рызах, наведваўся ў храмы. Паверылі ў яго раскаянне і адпусцілі.

Сяргей Макарэвіч

# «Додж», на якім разбілася моладзь у Мінску, быў на «лысай» гуме

Эксперты вызначылі прычыны страшнай аварыі.



Толькі цяпер, праз тры месяцы пасля страшнай аварыі на сталічнай вуліцы Ванеева, віноўніку трагедыі прад'явілі абвінавачанне.

«У ходзе папярэдняга расследавання завершаны комплекс следчых дзеянняў, атрыманы заключэнні экспертаў. Вызначана, што малады чалавек кіраваў аўтамабілем, які мае тэхнічную няспраўнасць хадавой часткі ў выглядзе падвышанага зносу шын задніх колаў, а пасажыры не былі прышпілены рамянямі бяспекі», — паведамілі ў Следчым камітэце.

Кіроўца перавысіў дазволеную хуткасць і выехаў на скрыжаванне на чырвонае святло.

7 лістапада ў аварыі ў Мінску кампанія на «Доджы» ўрэзалася ў ліхтар. 16-гадовая школьніца загінула на месцы, а яе 17-гадовая сяброўка-першакурсніца сканала ў бальніцы. 18-гадовы кіроўца не даў рады кіраванню. Правы ён атрымаў толькі за два месяцы да аварыі, але ж сеў за руль аўтамабіля з магутным рухавіком — 5,7 літра.

Адразу пасля трагедыі ўласнік аўто, які здаў машыну напракат, казаў пра няспраўнасць тармазной сістэмы: пры рэзкім тармажэнні машына рабілася практычна некіраванай.

Хлопцу, які быў за рулём «Доджа», пагражае ад трох да сямі гадоў калоніі. Ён знаходзіцца пад вартай.

СМ

## Сціслa

### Пара тыдзень гвалтавала жанчыну

У Мазыры судзяць пару, якая тыдзень гвалтавала жанчыну. 28-гадовая маці дваіх дзяцей прыраўнавала свайго 35-гадовага сужыцеля да яго былой каханкі. Вырашыла правучыць, як лічыла, саперніцу. А для гэтага падгаварыла і сужыцеля. Жанчыну яны сустрэлі ў яры, дзе згвалтавалі. А затым прымусілі паехаць да іх на кватэру. Там тыдзень яе не выпускалі і ўвесь час гвалтавалі. У дадатак з яе банкаўскай карткі знялі грошы.

### Цвярозы, а жонку задушыў

Ноччу 18 лютага ў міліцыю Наваполацка звярнулася 24-гадовая навапалачанка, заявіўшы, што яе бацька задушыў маці і збіў яе 19-гадовую сястру. І сышоў з кватэры. Неўзабаве 46-гадовы мужчына быў затрыманы ў двары свайго дома. У кватэры следчыя знайшлі труп 48-гадовай жонкі. Мужчына, які раней не быў судзімы, характарызуецца станоўча. Праведзены медыцынскі агляд падазраванага паказаў адсутнасць наркатычнага або алкагольнага ап'янення. Прызначана псіхолага-псіхіятрычная экспертыза.

### Выкінулася з 9-месячным сынам на пажары

Днём 18 лютага ў мястэчку Падсвілле Глыбоцкага раёна загарэўся двухпавярховы дом. Выбрацца праз дзверы жанчына з 9-месячным сынам ужо не магла. Спалохаўшыся, яна выскачыла з акна другога паверха. У выніку разам з дзіцём атрымала траўмы. У гэты ж час вярнуўся гаспадар. Ён не бачыў, што дачка з унукам выскачыла, і кінуўся ў полымя ратаваць іх. І загінуў.

### Збілі інвалідаў

Кампанія маладых людзей (трое хлопцаў, дзве дзяўчыны) у Мінску вярталася дадому пасля хакейнага матча. Каля паліклінікі па вуліцы Фролікава яны сустрэлі двух агрэсіўна настроеных непаўналетніх. Апошнія без тлумачэння прычын сталі наносіць удары хлопцам, дзяўчаты ўцяклі. Сярод пацярпелых — два інваліды з дзяцінства. Затрымалі 16-гадовага дзесяцікласніка і 17-гадовага навучэнца каледжа. Прыступ агрэсіі яны патлумачыць не змаглі. Зараз могуць адправіцца ў калонію.

КМ


112.BY

# Як заставацца заўжды маладым

Сакрэтам з чытачамі «Нашай Нівы» дзеліцца лідар панк-гурту «Дай дарогу!» Юрый Стыльскі.

### «У нас людзі не падарвуцца і не пойдуць мянтоўкі крышыць»

**«Наша Ніва»: Як справы?**

**Юрый Стыльскі:** Блін, у мяне насамрэч такая с*ака. Без настрою я, шчыра кажучы. Бо жыць у цэнтры горада, плаціць за хату 100 баксаў і даведацца аб тым, што табе патрэбна шукаць новую...

**«НН»: Не трапіў пад льготную пабудову жылля?**

**ЮС:** Яно магло б быць! У сястры двое дзяцей, але старэйшай споўнілася 18, і гэты льготны тарыф аўтаматычна зняўся — там у іх нейкія такія правілы. Яна стаяла ў чарзе на гэтае льготнае будаўніцтва, але спазнілася і мне не сказала. Я думаю, што за «стольнік» хоць усё жыццё можна здымаць хату ў цэнтры Брэста.

**«НН»: Наколькі я ведаю, у вас пачынаецца тур у Расію.**

**ЮС**: Так, і там панясецца ўжо. У іх усё, здаецца, было стабільняком: прырэслі да свайго расійскага рубля, гэты даляр не патрэбен. А тут атрымліваецца такі ж «беларускі цуд», як у нас некалькі гадоў таму: усе прачнуліся пасля Новага года, а нашыя грошыкі ператварыліся ў паперкі.

**«НН»: Ты цалкам глядзіш? Расійскую прапаганду адчуваеш?**

**ЮС:** Не. У мяне няма целіка. Я ўвогуле не разумею, аб чым там ідзе гаворка. А я неяк далёкі ад гэтага.

**«НН»: Ты ўжо граў у Расіі. Дзе слухачы больш удзячныя і прыбытак больш?**

**ЮС:** Слухачы ўдзячныя паўсюль — гэта не залежыць ад пляцоўкі. На наш канцэрт людзі ж ідуць мэтанакіравана. Чуем у свой адрас рэспекты. У Беларусі, зразумела, найлепшыя канцэрты ў Мінску — туды людзі таксама з'язджаюцца з розных карчоў, таму там адбываюцца самыя дзікія выступы.

### «Я не фан «Брута»

**«НН»: У Расіі вы будзеце граць разам з «Трубяцкім». Як ты ўспрыняў распад «Ляпісаў»?**

**ЮС:** Шкада вельмі. Я думаю, што ў іх адбыўся нейкі унутраны канфлікт у калектыве. Але мне здаецца, што гэта ненадоўга! Вось-вось, яны пару год яшчэ так памутузяць, а пасля знойдуць адзін аднога зноў!

**«НН»: Як табе «Брута»?**

**ЮС:** Я не сумняюся ў Сяргею, як у геніяльным паэце, але, блін, вельмі на самай справе дзіўныя тэксты ў яго пачаліся. Я не фан «Брута».

### «Мне спорт вельмі падабаецца, але ў той жа час я магу і пабухаць»

**«НН»: Табе блізкая вельмі папулярная цяпер тэма «здаровага ладу жыцця»?**

**ЮС:** Я хаджу на трэніроўкі, займаюся спортам, мне гэта прыкольна. Я да цябе на веліку прыехаў.

**«НН»: Неяк не сезон…**



**ЮС:** Калі снегу няма, я ганяю на ровары. Нават калі мінус, мне неяк па барабане. Я не артадаксальны «зожыст». Мне ўсё гэта вельмі падабаецца, але ў той жа час я магу і пабухаць. Мне здаецца, што людзі, якія ўвогуле ні кроплі не бухаюць, ці алкаголікі, бо ім нельга бухаць, ці ў іх проста дах паехаў. Я ўжо ведаю такіх людзей, якія проста не бухаюць — у іх не ўсё ў парадзе. Гэта ўжо клін нейкі.

**«НН»: «Дай дарогу!» — 16 год. Якімі вы былі — якімі вы сталі?**

**ЮС:** Ды нічога не змянілася. Набраліся досведу. Дарога ў нас стала шырэйшай. Раней была нейкая сцежка — «дай сцежку», хаха. Цяпер ужо шасэ, выходзім нібы на ўзлётную паласу. Ну і пастарэлі, можа! Бо часам глядзіш на нейкі калектыў — зялёныя рожы, маладыя, і думаеш: ну што вы можаце сказаць? Мне часам бывае так смешна, калі нейкія калектывы спрабуюць нейкі «разумняк» прасоўваць: «падумай аб жыцці, ты стаіш на краі, свечка дагарае» — такую фігню. Яны выступаюць такімі дактарамі. Ну які ты можаш быць доктар ці мудрэц, калі табе 20 ці 25? Ты яшчэ жыцця не бачыў, у цябе малако на вуснах не абсохла, а ты ўжо кагось лечыш. Смешна. Нам, канешне, можна верыць, але мы, па вялікім рахунку, проста сцябемся. Бо без гумару можна павесіцца.

**«НН»: Якім быў звычайны дзень Юрыя Стыльскага 16 год таму?**

**ЮС:** Я вёў вельмі дрэнны лад жыцця. Калі б я быў бацькам і ў мяне быў такі сын, я б адурэў. У мяне была кампанія такіх старых «нефераў», зараз такіх няма зусім: мы хадзілі ў касухах, заўжды ва ўмаце. І гэта быў нейкі пратэст грамадству. Я трапіў пад уплыў, звязаўся з пэўнай кампаніяй, і мне гэта стала цікава. Тады ж з'явіўся і панк-рок. Карацей кажучы, год таму мне патэлефанавала мая дзяўчына і паведаміла, што майму сыну 16 год. Вось гэта прыкол.

**«НН»: Нішто сабе прыкол!**

**ЮС:** Карацей, вось такі нумар. Я спачатку не паверыў, але яна ўсё даказала, усё ўзгадала. Яны жывуць у Італіі, на беразе мора, у іх усё ў парадку і ад мяне нічога не трэба. Проста пазваніла паведаміць: маўляў, ты, Юра, май на ўвазе. А я спытаўся, чаму яна раней не паведаміла. Проста яна аказалася трошкі мутнаватай. У яе былі магчымасці званіць, яна была непаўналетняй, а ўся радня — мянты. Як яна сказала, што мяне проста б пасадзілі, калі б яна сказала, што гэта я. Не было б выхаду зусім, а замуж яна не хацела. І цяпер кажа мне, каб я меў на ўвазе, што я padre. Я, з аднаго боку, нават абрадаваўся. Мы нядаўна пазнаёміліся з сынам — яны прыязджалі сюды. Дарослы хлопец ужо, высокі. Я яму сказаў «ciao».

**«НН»: А чым заняўся Юра пасля школы?**

**ЮС:** Ды я гуляў. Я тады ведаў, што ўся гэтая школа і прадметы — не маё. Мне казалі ўладкавацца на працу. Я працаваў у розных месцах, спрабаваў знайсці сябе. Але я разумеў, што лепей за ўсё ў мяне атрымліваецца рабіць музыку. І мяне клініла на гітары. Нібы нават супрацьмяне. Я любіў пагуляць, пабадзяцца, але на мяне находзіла нейкая хваля — і я займаўся гітарай. Я знайшоў гітарнага майстра, які мне зрабіў маю першую гітару — не было яшчэ ніякіх музычных крамаў, а гітары былі ўсяго ў некалькіх людзей у горадзе. І ўсе здзіўляліся, чаму гэта мяне так замыкае.

**«НН»: А ў арміі быў?**

**ЮС:** Пабываў. Спрабаваў закасіць, у шпіталь адпраўлялі. А пасля сказалі, што позна я пачаў касіць, раней трэба было гэтымі справамі займацца. Так што на паўтара года мяне занесла. У Мар'іну Горку, у разведцы быў. У мяне былі правы катэгорый В і С, і яны мне спатрэбіліся. Мяне пасадзілі на машыну, і я недзе апошні год ездзіў на смеццявозе, на базе ўзводу матэрыяльнага забеспячэння «страдаў фігнёй» розпай.

**«НН»: Пад дзедаўшчыну трапляў?**

**ЮС:** Ды ўсякае бывала. Памятаю, «фанера» была сіняя, нейкія пабоі. Я памятаю, што ў арміі была такая дурка... Усяму гэтаму цябе могуць навучыць недзе за паўгода, а паўтара года што там рабіць? Дрэвы фарбаваць? Самае карыснае — гэта калі мы ездзілі на розныя палігоны. Гэта я памятаю. А вось усё дэбільнае неяк сцерлася. Але сны сняцца. Усім, хто быў у арміі, сніцца сон, што ты ў ваенкамаце кажаш: «Ды вы што, я ж там ужо быў!», а цябе ўсё роўна забіраюць у армію.

### «Дай Бог, каб працоўная кніжка мне не спатрэбілася»

**«НН»: Неяк ты расказваў, што жыў у падвале. Гэта ўвогуле дзе і аб чым?**

**ЮС:** А ён і дагэтуль ёсць, на «Усходзе», я яго называў «андэграўндам». Наша з мамай кватэра была на першым паверсе. І ў адзін час да нас пераехала яшчэ сястра з сям'ёй — у двухпакаёвую кватэру. Ну а як жыць у адным пакоі з мамай, каб не з'ехаць з глузду? Мне трэба быў нейкі свой пакой. А адразу пад нашай залай быў падвал, у якім раней была майстэрня майго бацькі. Я правёў туды інтэрнэт, тэлефон, святло, камп'ютар паставіў. Нават рамонт там нейкі рабіў — ой, дурка. Там быў такі прахадны двор, што суседзі стаміліся. Увесь альбом «Д.С.П.Г.» я там пратусаваўся. Прыкольная была камора.

**«НН»: А якая была самая незвычайная праца, за якую давodзілася брацца?**

**ЮС:** Памятаю, уладкаваўся на мясакамбінат у Брэсце. Вось там нагледзеўся — капец. Я там прапрацаваў усяго тыдзень, а пасля падумаў: «Госпадзі, што тут рабіць увогуле?» Быў ва ўсіх цахах. Працаваў абвальшчыкам мяса — гэта трэба ад косці аддзяляць мяса. Такім навічкам, як я, выдавалі кальчужную пальчатку на левую руку, каб ты яе не парэзаў. А ў правай — вялікі востры нож, і трэба ім мяса адразаць ад касцей. Ой, там усё ў крыві, ліпкае. Там яшчэ такія людзі працуюць — канавалы. Далёкія ад творчасці і нейкага мыслення. Я там апынуўся нібы сярод іншапланецян. Некаторыя там ухітраліся вынесці на сабе вялікі кавалак мяса — прывязвалі да сябе ізастужкай і праходзілі праз прахадную. На бойні таксама быў. Такое рабілася, што гамон. Мне там якраз працоўную кніжку выдалі.

**«НН»: Цябе музыка цалкам забяспечвае цяпер?**

**ЮС:** Так. Я ж яшчэ для рэкламы музыку пішу, агучваю розныя ролікі. «Гефесту», МТСу. «Вэлкому», «Лідскай муцэ», «Лідскаму квасу» пісаў. Сабачыя кармы ўсялякія і гэтак далей.

**«НН»: А чытаць любіш?**

**ЮС:** Вельмі рэдка. Я проста вельмі крытычна стаўлюся да ўсяго. Мне апошнім часам падабаюцца крутыя кароткія апавяданні. Вось я «Парфюмера» чытаў — мне вельмі спадабалася, было вельмі цікава. Я яе прачытаў яшчэ задоўга да таго, як выйшаў фільм. Сарокін таксама піша цікава. Ёсць што пачытаць, канечне. Але мала трапляецца літаратуры, ад якой не адцягнуць.

**«НН»: Наконт тваіх карцін. Маляваў ты, як я ведаю, заўжды. А хто першы ацаніў тваю творчасць і сказаў, што ты — мастак?**

**ЮС:** Усё мастацтва пабудавана на капіраванні — перамалёўванні. Як бачыш, так і малюй. Ну а я з дзяцінства магу перамалёўваць нешта вельмі падобна. З іншага боку, я думаю, каб зараз гэта было завёрнута ў нейкім іншым стылі. Напрыклад, як імпрэсіянізм, як Ван Гог пісаў ці Поль Гаген. Мяне такое наватарства прыцягвае. Хочацца намаляваць нешта такое, каб людзям было не адразу зразумела — не так, што паглядзеў на карціну: «А, ну тут усе зразумела — гэта табурэтка», і пайшоў. Каб была нейкая загадка, каб можна было патырчаць і паўтыкаць у гэтую карціну. У мяне пакуль ёсць серыя карцін у стылі ню. І ў мяне ўжо з'явіліся сябры сярод берасцейскіх мастакоў, чаму я вельмі рады. Напрыклад, Таццяна Патворава — піша, проста клас! Таксама яшчэ Анатоль Мелехавец, Ганна і Маша Радзько. Яны мне дапамагаюць, могуць падказаць, што мне патрэбна дадаць у той ці іншай карціне, бо раней мне проста не хапала крытыкі.

**«НН» Юрый Стыльскі будзе навекі рамантык і халасцяк?**

**ЮС:** Не кажы мне такое! Часам мне здаецца, што нават калі б у мяне нехта з'явіўся, то я ўжо так звыкся, што ўвесь мой час належыць толькі мне. Але часам не хапае магчымасці сябе прысвяціць. Каб была сям'я, каб было цікава. Бо часам бывае сумнавата. У мяне ўвогуле такая тэорыя, што людзі жэняцца, бо ім сумна: усе навокал заводзяць пары, займаюцца сваімі справамі. Нядаўна прыйшоў на вечар сустрэчы выпускнікоў: такія дзяды папрывальвалі, я ледзь не адурэў! Гляджу — і нікога не пазнаю. Мае аднакласнікі такія, што мама! А яны мне: «*ля, Юра, ты што, заспіртаваўся, ці што?» Нібы які быў, такі і застаўся. А я ім: «Хлопцы, гэта ж рок-н-рол, ёптыць! Ён маладзіць!» Неяк так.

**«НН»: Чаму людзі ў нас так рана ператвараюцца ў дзядоў?**

**ЮС:** Жывем у саўку. Людзі пасля 30 пачынаюць апранацца паіншаму. Ты ўжо не можаш апрануць нейкую вясёлую майку з мікі-маўсам. Нейкія такія штампы ў нас накладзеныя. Калі табе за 30, ты ўжо павінен насіць усё шэрае. Нейкія ссунутыя рамкі. Мяне самога гэта заўжды здзіўляла, што ўсе так хутка ператвараюцца ў гародніну. Дзе ж ваша маладосць, ваш дух? Я гэта яшчэ звязваю са спортам — ён дапамагае трымацца. Я яшчэ неяк мала бухаў.

**«НН»: Якой павінна быць твая жонка?**

**ЮС:** Ой, я ўвогуле самадастатковы. Магу сам сабе гатаваць — я быў кухарам у пяці рэстаранах у Брэсце, нават у італьянскіх. Таму мне і цяжка. Бо кажуць, каб знайшоў такую, якая гатуе. А калі яна прыгатуе, а я не змагу гэта есці?

Гутарыў Зміцер Міцкевіч

---

**«Дай дарогу!»**

Брэсцкі панк-гурт, створаны ў 1998. Музыку і тэксты для яго піша Юрый Стыльскі. У тэкстах ёсць мат, але ёсць і іронія.

# Беларускаму прадукту цесна ў межах фестываляў

Гэта паказала **Свята роднай мовы**, якое прайшло ў сталіцы 22 лютага.

Дні вышыванкі, якія ўскалыхнулі Мінск у канцы мінулага года, набылі лагічны працяг. Фестываль-кірмаш «Свята роднай мовы» наведалі дзясяткі людзей, хоць уваход быў платны.

Мерапрыемствы пачаліся а 14-й і доўжыліся да позняга вечара. Свята было прымеркавана да Міжнароднага дня роднай мовы, які традыцыйна адзначаецца 21 лютага.

За ўваход трэба было плаціць 30 тысяч рублёў, але ў калідоры бізнэс-клуба Imaguru тоўпіліся дзясяткі людзей. З уступным словам на кароткім адкрыцці фестываля выступілі арганізатары: Павел Белавус з «Артсядзібы» і Алесь Квіткевіч з інтэрнэт-крамы Prastora.by.

Два паверхі бізнэс-клуба, дзе праходзіла Свята роднай мовы, былі падзеленыя на тэматычныя зоны. На першым паверсе размясцілася прэзентацыйная і гандлёвая зоны з прадукцыяй беларускіх дызайнераў аддзення, упрыгожванняў і сувеніраў. На другім — танцавальна-забаўляльная сцэна з выставай плакатаў Уладзіміра Крукоўскага, а таксама зоны беларускіх настольных гульняў і зала для семінараў і майстар-класаў. На дзіцячую праграму прыйшлі дзясяткі беларускамоўных сем'яў з дзецьмі. Малыя шчыльна атачылі сцэну, дзе для іх працавалі батлейка «Мама Му» і тэатр-студыя «Зялёны яблык», выступалі паэты Леанід Дранько-Майсюк і Серж Мінскевіч.

Усе ахвотныя маглі напісаць Агульнанацыянальную дыктоўку ад Таварыства беларускай мовы. Вялікую цікавасць публікі выклікаў і майстар-клас па ўпрыгожванні пірагоў ад пекара Кастуся Ларкова.

Наведнікаў фестываля можна было ўмоўна падзяліць на тры групы: беларуская моладзь і студэнцтва — найбольш массавая і актыўная аўдыторыя — спажывец тавараў «ад беларусаў і для беларусаў»; беларускамоўныя сем'і, якія жывуць і выхоўваюць сваіх дзяцей у атмасферы беларушчыны, і пакаленне адраджэнцаў 90-х. Для апошніх цяперашні фестываль — гэта прыклад новых формаў самаарганізацыі і развіцця беларускага асяроддзя. Але відавочна, што ўзровень прапановы «беларускага прадукту» ўжо не ўпісваецца ў фармат разавых акцый — шмат беларусіх праектаў і бізнэс-ідэй існуюць самастойна і паспяхова развіваюцца.

**Сяргей Гудзілін, фота аўтара**

**Гадзіннікі ў нацыянальным стылі**

Падчас свята прэзентавалі серыю «Спадчына» мінскага гадзіннікавага завода «Прамень». Яны маюць японскі механізм і аздобленыя ў нацыянальным стылі. Серыя невялікая: выраблена 300 мужчынскіх гадзіннікаў (6 варыянтаў аздаблення), абяцаюць у хуткім часе і жаночыя.

**Міжнародны дзень роднай мовы**

Спецыяльны дзень, абвешчаны на 30-й сесіі ЮНЕСКА па прапанове Бангладэша ў лістападзе 1999 года. Ён мае на мэце заахвочванне моўнай разнастайнасці і шматмоўнай адукацыі, а таксама спрыянне ўсведамленню моўных і культурных традыцый, якія грунтуюцца на ўзаемаразуменні і цярпімасці. Дзень святкавання — 21 лютага — быў абраны таму, што ў гэты дзень у 1952 загінулі пяць студэнтаў, якія змагаліся за наданне мове бангла статуса дзяржаўнай у тагачасным Пакістане, усходняя частка якога пазней стала незалежнай дзяржавай Бангладэш.






## Найлепшым фільмам года стаў «Бёрдмэн»

22 лютага члены амерыканская кінаакадэмія абвясціла пераможцаў прэміі **«Оскар»**.

Статуэтку за найлепшы фільм атрымаў «Бёрдмэн» мексіканскага рэжысёра Алехандра Гансалеса Ін'ярыту. Барацьба была жорсткай: званне найлепшага фільма прарочылі і патрыятычнаму ваеннаму баёпіку «Снайпер» Клінта Іствуда, і казачнаму «Гатэль «Гранд Будапешт» Уэса Андэрсана, і «даўгабуду» «Малалецтва», які здымалі цягам 12 гадоў.

Выбіраць кінаакадэміі было цяжка, аднак «Бёрдмэн» заслужыў званне найлепшага фільма 2014 года. Галоўны герой стужкі Рыган Томпсан (у выкананні Майкла Кітана) калісьці быў зоркай серыі фільмаў пра крылатага супергероя Бёрдмэна. Але дасягненні падаліся Рыгану нязначнымі, ён хацеў стаць персонай са свету высокага мастацтва і сышоў з Галівуда. Цяпер пасталелы і забыты Рыган, у жаданні зноў стаць вядомым, ставіць на Брадвеі п'есу, у якой выконвае галоўную ролю і на шляху да задавальнення свайго раздзьмутага эга разбурае сваё жыццё і жыццё блізкіх.

«Бёрдмэн» — гэта дзівосная гульня акцёраў. Калі не казаць пра Кітана, то «Бёрдмэн» несумненна стаў адной з найлепшых, хоць і не галоўных, роляў Эдварда Нортана, а маналог Эмы Стоўн ужо варты якой-небудзь узнагароды. Гэта атмасферны саўндтрэк, што цалкам складаецца з джазавых барабанных партый. Гэта звышпрафесійная аператарская работа, якая стварае ўражанне фільма, знятага за адзін дубль. А лацінаамерыканскі погляд Ін'ярыту робіць з псіхалагічнай драмы твор магічнага рэалізму. Пры гэтым «Бёрдмэн» — гэта яшчэ і камедыя. У адрозненне ад іншых фільмаў Ін'ярыту, як «21 грам» ці «Вавілон», «Бёрдмэн» не напоўнены атмасферай безвыходнасці і глядзіцца лёгка.

**Кірыла Хілько**



**Хто яшчэ перамог?**

- Найлепшым фільмам на замежнай мове прызналі польскую чорна-белую стужку «Іда» Паўла Паўлікоўскага. Фільм расказвае пра паслушніцу Ганну, якая перад пострыгам даведваецца, што яе сапраўднае імя Іда, яна габрэйка, а яе бацькі сталі ахвярамі халакосту. Іда са сваёй адзінай сваячніцай Вандай вырашае даведацца пра лёс сваёй сям'і.
- «Гатэль «Гранд Будапешт» узяў 4 «Оскары»: за найлепшую працу мастака-пастаноўшчыка, найлепшы дызайн касцюмаў, найлепшы грым і прычоскі і найлепшую музыку да фільма.
- «Гульня ў імітацыю» пра геніяльнага Алана Т'юрынга перамагла ў намінацыі «найлепшы адаптаваны сцэнар».
- «Снайпер» узяў «Оскар» за найлепшы мантаж гуку.
- «Малалецтва» прынесла «Оскара» за найлепшую жаночую ролю другога плана Патрысіі Аркет.
- «Апантанасць» — найлепшая мужчынская роля другога плана (Джэй Кей Сіманс), найлепшы мантаж і найлепшы гук.
- Прыз найлепшаму акцёру аддалі Эдзі Рэдмайну за ролю Стывена Хокінга ў «Тэорыі ўсяго», найлепшая актрыса — Джуліяна Мур за ролю ва «Усё яшчэ Эліс».
- Найлепшым поўнаметражным мультфільмам стаў «Горад герояў», кароткаметражным — «Бяседа».
- Нашумелы «Інтэрстэлар» перамог у намінацыі «найлепшыя візуальныя эфекты».
- Найлепшы дакументальны фільм — «Грамадзянін 4» пра Эдварда Сноўдэна, найлепшая дакументальная кароткаметражка — «Тэлефон даверу: ветэраны, нацысніце 1».

## Віктар Марціновіч: **Не хачу быць адной літаратуры з Прылепіным**

Аўтар гучнага рамана «Мова» Віктар Марціновіч лічыць, што беларуская і расейская літаратуры «разышліся ў розныя бакі». Раней «у нас былі прыкладна адны тэмы, адна нуда, адзін постсавецкі боль».

Метамарфозу, якая адбылася літаральна за год, Марціновіч ілюструе прыкладам пісьменніка Захара Прылепіна: «Некалі ён уваходзіў у антыпуцінскі фронт, потым, на адной з сустрэч з пісьменнікамі, пачаў крытыкаваць прэзідэнта за тое, што ён недастаткова пасавецку падтрымлівае літаратуру. І гэта Пуціну спадабалася. Яны паразумеліся...

Прылепін піша, як добра жывецца людзям у Крыме пасля анексіі, у дзённіку з Луганска Прылепін паведамляе нам пра подзвігі легендарнага Матаролы».

«Цяжкасці, з якімі чытаецца сучасная руская проза, абумоўленыя не палітыкай, а тэматычным адыходам Расіі ад Беларусі і Украіны (ёсць адчуванне — ад усяго астатняга свету)», — пэўны Марціновіч.

«Дзеля таго, каб зразумець нашае жыццё, нашыя беды і наш лёс, варта чытаць сваіх. Сваіх, а не рускіх», — рэзюмуе ён.



### Сцісла

**Лявон Вольскі стварыў серыю паштовак**

Набор з 28 паштовак «Святы, якія заўжды з табой» — для тых, хто глядзіць на жыццё з гумарам. Апроч 23 лютага і 8 сакавіка, ёсць там святы міліцыянтаў, дэсантнікаў, будаўнікоў, вынаходнікаў і рацыяналізатараў. А выдала паштоўкі кампанія «Будзьма».

**«Людзі на балоце» разыдуцца пасля прэзентацыі альбома**

Гродзенскі гурт, які ўздымае ў песнях тэму антыбальшавіцкай барацьбы, вырашыў прыпыніць дзейнасць. Але яшчэ дасць канцэрты з праграмай «Кароткая гісторыя Беларусі» ў Гродне, Віцебску, Беластоку і Варшаве і Мінску. У альбом увайшло 20 песень на вершы Дануты Бічэль і Марыі Базылюк-Саснюк.

**СМ**

# Лідзія Арабей

**Вечарам 20 лютага пайшла з жыцця Лідзія Арабей. У чэрвені пісьменніцы споўнілася б 90 гадоў.**



«Апошнім часам яна пісала абразкі, — успамінае журналістка, пісьменніца Валянціна Доўнар. — Гэта свайго роду канцэнтрацыя ўбачанага, пачутага, перажытага... Часам дзень, ноч, тыдзень «носішся» з нейкаю думкаю: усё шукаеш больш дакладныя словы, каб напісаць тыя некалькі сказаў ці абзацаў. А Лідзія Львоўна нейк адразу ж «выдавала» начыста — з галавы».

«Трэба доўга памучыцца, каб заслужыць смерці», — пісала Лідзія Львоўна, хварэючы. Я яе падбадзёрвала, казала, што гэта ж, маўляў, не першая канава ў вашым жыцці, маючы на ўвазе выпадак з яе маленства. Сям'я тады жыла на мінскай Грушаўцы, і недзе непадалёк ад дома была канава, да якой дзецям забаранялі нават наближацца. А Ліда з сяброўкай неяк пайшлі, сталі гуляць там, і Ліда ўвалілася. Спалохалася, заплакала. Ад страху, што зараз нехта пачуе, прыбяжыць і мала тады не падасца, сяброўка яе ўцякла... А Ліда, зразумеўшы, што дапамогі чакаць няма адкуль, пайшла той канавай, і ўрэшце здолела недзе выбрацца...»

Яе дзявочае прозвішча было Качкоўская. «Бацька яе ў 1920-я гады працаваў у адной з мінскіх газет, — працягвае спадарыня Доўнар. — Яго не стала, калі Лідзіі было гады два ці тры. Маці потым выйшла замуж яшчэ раз, нарадзіла пяцёра дзяцей... Пра айчыма Лідзія Львоўна добрых слоў не казала. Мусіць, таму, што змалку была за служку, за няньку для ўсіх малодшых, і таму, што чалавек гэты зусім не шанаваў навуку: у яе, ва ўсякім разе, вырываў з рук кнігі, вучэнне лічыў зусім непатрэбным».

Але такое жыццё не перакрэсліла яе прыроднай інтэлігентнасці, нават вытанчанасці.

«Яна была жанчынай у поўным сэнсе слова. Калі адчувала сябе нядобра — гады ўсё ж — адмяняла сустрэчу. Казала па тэлефоне: «Прабачце, але я сёння не магу вас прыняць». Калі ж «прымала», дык сустракала заўжды хораша апранутай і прычасанай, з падфарбаванымі вуснамі, з пацеркамі і пярсцёнкамі».

Арабей — прозвішча ад першага мужа, партызана, які загінуў у вайну. З другім мужам, мастаком, заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі Яўгенам Ганкіным, яны пражылі разам некалькі дзесяцігоддзяў. «Яна называла яго «мой Жэня» і заўжды адзначала дзве даты: 26 кастрычніка і 3 мая — дні яго нараджэння і смерці».

Яўген Ганкін афармляў такія класічныя фільмы, як «Паўлінка», «Вайна пад стрэхамі», «Белыя Росы».

Муж быў творчай асобай і дома. «Лідзія Львоўна смяялася, што з усіх гаспадарчых спраў яе Жэня ўмеў хіба адкрываць бляшанкі кансерваў. Сама ж яна была добрай гаспадыняй і агародніцай. Вельмі любіла дачу. Яны з тым дамком былі ў многім падобныя: невялічкія, зграбныя, нічога лішняга. Там быў лес за агародам, садок і грады. Усё расло, пакуль сілы былі... А ў апошнія гады я набыла ёй некалькі пластмасавых скрынак, пакетаў зямлі. Яна там сеяла кроп, агуркі. Былі гады, калі тыя «дачныя» (а дакладней, балконныя) агуркі, што выраслі ў скрынках, яна нават саліла».

Працуючы ў выдавецтвах, літаратурных часопісах, Лідзія Арабей блізка ведала класікаў беларускай літаратуры. Ёй выпаў вялікі гонар парадкаваць архіў Якуба Коласа. Яна вельмі паважала і любіла Быкава, Мележа, Брыля... Вельмі рада была, калі ў Мінску з'явілася вуліца, названая ў гонар пісьменніка.

«Але не меней добрых пачуццяў выклікалі ў яе новыя імёны, асабліва тых, хто, нягледзячы ні на што, пісаў і піша па-беларуску. З задавальненнем чытала Наталку Бабіну, Алену Брава, Уладзіміра Сцяпана, Аляксандра Лукашука... Двойчы перачытвала ўспаміны Аляксея Карпюка, Валянціна Тараса, Васіля Шаранговіча. Калі прыходзіла да яе, ці не першае пытанне было: «А кніжку вы мне новую прынеслі?».

Лідзія Арабей выявіла прынцыповую пазіцыю падчас расколу пісьменніцкай арганізацыі ў 1990-я, супрацоўнічала з незалежным Саюзам пісьменнікаў, друкавалася ў яго часопісе «Дзеяслоў».

...Свае апошнія два абразкі Лідзія Арабей напісала ў палаце Лечкамісіі. Адзін з іх быў прысвечаны ўкраінскім падзеям, за якімі яна, нягледзячы на хваробы, пільна сачыла. Недзе ў СМІ яна «злавіла» інфармацыю пра 9-гадовага хлопчыка, якому падчас абстрэлу Данецка адарвала адбедзве нагі і адну ручку... «Ці варта хоць адна ідэя такой ахвяры? — пыталася яна і рабіла выснову: — Чалавецтва, ты за вякі не паразумнела».

Другі абразок быў пра тое, як хворыя бабулькі ў бальнічнай палаце сядзяць на ложках і нешта чытаюць, чытаюць... Прыглядзелася — малітвы. Значыць, ратунку яны чакаюць не ад дактароў, а ад Бога...

У адной з апошніх кніг Лідзіі Львоўны ёсць «Пасмяротная аўтабіяграфія», дзе яна піша, што памерла, што «душа яе паціху адплыла ад цела», падалася «да зор, у космас, куды адплываюць душы нябожчыкаў». І дзе, сярод мноства душ, яна адшукала-такі адну — душу свайго Жэні. І ўжо разам з ёю паплыла ў вечнасць.

Лідзію Арабей крэміравалі 22 лютага на Паўночных могілках Мінска, 10 сакавіка урна з прахам будзе пахавана на магіле мужа.

**Запісаў Сяргей Мікулевіч**

**Лідзія Арабей**

27.06.1925, в. Нізок Уздзенскага раёна (тая самая, дзе нарадзіліся яшчэ байкапісец Кандрат Крапіва і лірык Паўлюк Трус) — 20.02.2015, Мінск. Пісьменніца, літаратуразнаўца. Працавала ў часопісе «Вожык», у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена», настаўнічала. Была старшым рэдактарам выдавецтва «Беларусь», літсупрацоўнікам часопіса «Полымя». Кандыдат філалагічных навук. Аўтар шматлікіх зборнікаў аповесцяў і апавяданняў, раманаў «Іскры ў папялішчы» (1970) і «Сузор'е Вялікай Мядзведзіцы» (1980). Выдала зборнікі апавяданняў для дзяцей «Калібры» (1960), «Ісці ў разведку» (1989) і аповесць «Сіні бор» (1972).

**Цікавае жыццё**

Бабка расказвала ўнучцы пра вайну, як яна, бабка, была ў падпольнай арганізацыі, як немцы іх раскрылі і яе, бабку, пасадзілі ў турму, а потым вывезлі ў канцэнтрацыйны лагер, як яна аднойчы пабілася з немцамі...

Унучка слухала, слухала, а потым сказала:

— Якое цікавае жыццё!

**Слёзы**

Калі мне паказваюць сентыментальныя сцэны ў кіно ці ў тэатры і калі я нават бачу слёзы на вачах у артыстаў, то часцей за ўсё застаюся спакойнаю, бо разумею, што гэта — ігра.

А калі я гляджу перадачу «Чакай мяне» і бачу, як людзі плачуць слязьмі гора і радасці, то я плачу разам з імі, бо гэтыя слёзы не падробныя.

**Нацыянальная меншасць**

Беларусы ў Беларусі — нацыянальная меншасць, а адносіны да яе — адпаведныя.

**Зайздрасць**

Нікому не трэба зайздросціць, бо калі мы бачым нібыта шчаслівага чалавека, то гэта толькі вяршыня айсберга, а цяжкае, пакутнае — у глыбіні, яно нябачнае людзям. Аднак колькі злачынстваў робіцца ад зайздрасці.

**Зло**

Калі яна ўспамінае зло, якое ёй учынілі гадоў сорак таму, ёй робіцца кепска і пачынае балець сэрца.

— Кінь, дурная, супакойся, гэта было даўно, ды і людзі, якія табе зрабілі зло, даўно памерлі.

Так, людзі, якія зрабілі зло, памерлі, а яно само дасюль жыве. Зло дужэйшае за смерць.

**Дыета**

Сорак шосты год мінулага стагоддзя. Нядаўна скончылася вайна, а мы — студэнты першага курса філфака БДУ — усе худыя: сярод нас ніводнай тоўстай, мы не ведаем слова «дыета», мы не ведаем, колькі кожная з нас важыць, нам гэта не цікава, у нас няма клопату — гэта можна есці, а гэта няможна, было б толькі што есці. Мы вельмі адрозніваемся ад сучасных дзяўчат, у якіх адна праблема — як пахудзець.

**Пакаранне**

Дзяўчына нарадзіла дзіця і пакінула яго на марозе. Дзіця загінула. Матку знайшлі, арыштавалі, далі пяць гадоў. Але што ёй тыя гады. Яна сама сябе прыгаварыла да пажыццёвага пакарання.

А недзе жывуць, не ведаючы клопату, тыя, што давялі дзяўчыну да такога граху.

**Будзе позна**

Я больш ніколі не ўбачу мора. Я больш ніколі не ўбачу егіпецкіх пірамід, не ўбачу Рыма, Парыжа. Мае гады і хваробы не дазволяць мне яшчэ раз зрабіць такое цікавае падарожжа. Я мушу дажываць з тым багажом, які ўжо набыла ў мінулыя гады.

Людзі! Старайцеся браць ад жыцця ўсё, што можна, бо потым будзе позна!

**Развітанне**

Некалькі гадоў шукала ісціну — на вуліцах, у хатах, у чалавечых душах.

А ўласна — што такое ісціна? Па-мойму, ісціна — гэта праўда. І я прыйшла да вываду, што ў кожнага свая праўда, свая ісціна.

Дык і жывіце кожны па сваёй праўдзе, толькі не рабіце адзін аднаму зла.

Бывайце здаровы!

# Набівалі беларусамі вагоны-«цялятнікі»

**Як праходзіла дэпартацыя «ворагаў народа» з Баранавіч у 1951 годзе. Успаміны відавочцы.**

Нават пасля заканчэння вайны савецкая ўлада працягвала рэпрэсіі супраць свайго народа. Арышты і вывазы не спыняліся да смерці Сталіна. Шмат ні ў чым не вінаватых людзей было арыштавана або дэпартавана ў глыб СССР.

Напрыклад, у 1951 годзе за адну ноч па ўсёй Заходняй Беларусі і Украіне былі дэпартаваныя сем'і ветэранаў польскай арміі Андэрса, якія ваявалі супраць Гітлера ў складзе войскаў саюзнікаў і якія ўдзельнічалі ў крывавым штурме нямецкіх умацаванняў манастыра Монтэ-Касіна ў Італіі.

Пасля вайны многія з тых, хто ваяваў у польскай арміі, вярнуліся жыць дадому ў Заходнюю Беларусь і былі прызнаныя ўдзельнікамі Другой сусветнай вайны. За адну ноч на 1 красавіка 4520 былых «андэрсаўцаў» арыштавалі, іх маёмасць канфіскавалі, а сем'і дэпартавалі ў Казахстан і Сібір.

Міхаіл Барысевіч, жыхар Баранавіч, быў сведкам таго, як у 1951 годзе праходзіла адна з такіх дэпартацый. І ў 1998 годзе, незадоўга да смерці, ён падзяліўся ўспамінамі.

Многія з тых няшчасных не перажылі транспарціроўкі ў далёкі край. А некаторыя ніколі не вярнуцца на радзіму...

«У 1950-м годзе я ўладкаваўся ў Баранавічах на вугальны склад. Ён знаходзіўся ў раёне лакаматыўнага дэпо. Гэта быў склад Дзяржрэзерву. Сакрэтны. Мяне ўзялі на пасаду камандзіра аддзялення ўзброенай аховы. Я сам не ахоўваў, у мяне былі падначаленыя. Я трохі ў душы нават гэтым ганарыўся.

Склад ушчыльную падыходзіў да ваўкавыскай рампы, якая цягнулася да брамы баранавіцкай турмы.

Улетку 1951 года на ваўкавыскай рампе з'явіліся 15—16 вагонаў-цялятнікаў. Склад адразу ачапілі «чырконапагоннікі» з сабакамі, узброеныя аўтаматамі. Гэта было за 70 метраў ад майго склада, і я выдатна ўсё бачыў.

Адразу пасля ачаплення сталі пад'язджаць машыны ЗІС-5. На кожнай машыне знаходзілася прыкладна па 40 чалавек, у тым ліку і інваліды, без рук, без ног — сядзелі адзін на адным, некаторыя былі з куфэрачкамі, з клункамі. Шмат хто ў бруднай сялянскай вопратцы. Спякота была страшная. Усе трымаліся як маглі...

Тады была Баранавіцкая вобласць. Людзей, напэўна, з усёй вобласці звозілі! Колькі сабак трэба было, колькі ахоўнікаў з аўтаматамі! Людзей на пляцоўку каля турмы пагузілі, а потым накіравалі ў цяплушкі. Уяўляеце, 15 вагонаў напакаваць? Колькі машын пад'язджае?!

Ужо народ з горада стаў збірацца, сваякі тых, каго дэпартавалі, з вёскі паспелі прыехаць. А вайскоўцы ўсё возілі і возілі — ужо на тэрыторыі турмы месца не было.

Машына падыходзілі адразу да цяплушак, а людзей спіхалі і спіхалі. Хто замарудзіўся — адразу прыкладамі ў спіну.

А людзям і спраўляць патрэбу трэба было. Пад вагонамі знаходзіліся і мужчыны, і жанчыны, сарамлівасці не было. А побач стаялі сваякі, сваякі з дзецьмі праводзілі. Некаторыя хлопчыкі, гадоў 10—12, прабіраліся да вагонаў, шукалі сваякоў, а іх прыкладамі адганялі.

На наступны дзень вагоны працягвалі запаўняць. Гэта страшнае відовішча — «цялятнік» набівалі колькі маглі.

Мне здаецца, што гэта савецкая ўлада помсціла «заходнікам». Гэтых «заходнікаў» бальшавікі чамусьці як агню баяліся. Не ведаю чаму. Таму і насельніцтва наша патрапіла ў няласку...»

**З успамінаў Міхаіла Барысевіча (запісаў Руслан Равяка, 1998), intex-press.by**

# Банкір Лёша

Настаўніцкае апавяданне.
Піша Ала Кажэра.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Лёшу восем гадоў, ён ходзіць у трэці клас. Вучыцца не горш за іншых, на ўроках сядзіць ціха, слухае настаўніцу, але на пытанні па тэмах урокаў ніколі не адказвае. Руку не падымае, быццам саромеецца чагосьці.

І толькі на ўроках матэматыкі пры вусным лічэнні заўсёды першым ведае адказ, чым здзіўляе настаўніцу, бо нават лепшыя вучні не выяўляюць такога спрыту.

Калі на вялікім перапынку дзеці дружным гуртам ляцяць у школьны буфет, каб купіць прысмакаў, Лёша застаецца сядзець на сваім месцы. На пытанне настаўніцы, чаму ён нічога не купляе і ці ёсць у яго грошы, Лёша, утуліўшы галаву і апусціўшы вочы, адказвае:

— Грошы ёсць, але я нічога не хачу.

Настаўніца некалькі разоў спрабавала пачаставаць яго, у адказ — крыўда і такое абурэнне, што Вольга Іванаўна ўрэшце спыніла гэтыя спробы.

Вольга Іванаўна ўсё ведае пра Лёшава жыццё: Лёшу выхоўваюць дзядуля і бабуля. Бацьку Лёша бачыць толькі ўвечары, і заўсёды той на добрым падпітку. Лёша ў гэты час ужо ляжыць у ложку, і калі бацька набліжаецца да яго, нацягвае коўдру на твар, каб не дыхаць перагарам. Маці Лёшава асуджаная, адбывае пакаранне на так званай «хіміі».

Хлопчык ведае, што маці парэзала нажом нейкага дзядзьку, якога ўсе называюць яе палюбоўнікам, Лёша не разумее, хто такі палюбоўнік, але ў яго ўяўленні гэты чалавек зрабіў нешта дрэннае яго маці.

У хлопчыка ёсць яшчэ сястра Віка, якая таксама на руках дзядулі і бабулі. Між суседзямі ідзе плётка, што Лёша быццам не Андрэеў сын, зусім да яго не падобны. Вось Віка — дык уся ў бацькаву радню, такая ж чарнявая, як і яны. Але размовы гэтыя ніяк не адбіваліся на любові да Лёшы дзеда і бабулі. Яны лічаць яго сваім, родным, бо рос у іх на вачах і нельга яго адарваць ад сям'і.

Лёша адчувае гэтую любоў і сваю таксама аддае ім, стараецца быць карысным памочнікам у хатніх справах.

Вось і зараз Лёша збіраецца ў краму па просьбе бабулі.

Ён загадзя ведае, што колькі каштуе, і выкладае бабулі свае разлікі наконт хлеба, малака, кефіру. Усе дзівяцца такой гаспадарлівасці, усю здачу да капейкі Лёша прыносіць дадому.

Бабуля ж у сваю чаргу не крыўдзіць унука і кожным ранкам дае Лёшу грошы ў школу, каб той купіў сабе якіх прысмакаў.

І вось тут Лёша робіцца маленькім «банкірам», старанна адкладае ў кашалёчак кожную капейчыну. У буфет не ходзіць, а здавальняецца толькі бясплатным сняданкам, што выдаюць у школе.

Аднойчы Лёша пачуў, што хутка са зняволення вяртаецца маці, і ёй, канечне, спатрэбяцца грошы: трэба ж тое-сёе купіць для сябе ды і харчавацца пасля турмы трэба лепш. Лёша марыць аб гэтай сустрэчы. Ён не забыўся на тую матчыну ласку, якую яна аддавала яму маленькаму.

Тыя часы, калі маці была побач, усплываюць у яго памяці, як кадры з любімых мульцікаў.

...Вось маці прыйшла па яго ў дзіцячы садок і працягвае яму цукерку; вось нечакана знойдзены ў ложку цёплы, з мяккага футра мішка, з якім Лёша засынаў кожны вечар. А матчыны рукі, якія моцна абдымалі і прыціскалі яго да грудзей.

Калі Лёша падрос да гадкоў пяці, помніць ён і другую маці. Ледзь пераваліўшыся цераз парог кватэры, яна падае на падлогу, а Лёша бездапаможна стаіць каля яе, не ведаючы, чым дапамагчы.

Прыходзіць бабуля, бярэ Лёшу за руку і адводзіць у іншы пакойчык.

Маці доўга спіць, а калі прачынаецца, вочы ў яе нейкія дзіўныя, быццам налітыя мутнай вадкасцю.

Лёшава сэрца разрываецца ад жалю, ён нават не хоча ісці ў дзіцячы садок, плача, каб застацца дома, але дзед Антон прыкрыквае на яго, а дзеда Лёша пабойваецца і любіць таксама моцна.

Успаміны наплываюць у Лёшаву душу амаль штодня, чуе ён і размовы дарослых пра маці, дзе больш абурэння і знявагі, чым спачування.

Але Лёша па-ранейшаму моцна любіць сваю маму і марыць аб сустрэчы з ёй.

І вось учора ён пачуў размову дзядулі з бабуляй, што вярнулася Сонька (так завуць маму) і што прыходзіла да Лёшавага таты на працу, прасілася вярнуцца да іх, але ён ёй адмовіў: бацькі супраць і бачыць яе не хочуць.

Лёша кінуўся на кухню, дзе сядзелі дзед з бабуляй, з плачам:

— Няхай мама вернецца да нас!

Але дарэмныя былі яго слёзы і лямант — старэйшыя стаялі на сваім.

...Прайшоў тыдзень. Аднаго разу Лёша з хлопчыкамі пасля ўрокаў выбег на школьны ганак і раптам спыніўся на прыступках. Крокаў за дваццаць ад ганку ў школьным двары ён пабачыў знаёмую постаць. Не звяртаючы ўвагі на сяброў, Лёша кінуўся да яе і з крыкам «Мама, ты прыйшла!» павіс на яе шыі.

Маці плакала і моцна цалавала Лёшу. Аднакласнікі некаторы час здзіўлена назіралі гэту сцэну, а пасля гарэзліва разбегліся ў розныя бакі. Лёша ні аб чым не пытаўся ў яе, яны моўчкі дайшлі дадому.

І раптам на развітанне маці запыталася, ці даюць яму грошы ў школу. Лёша адразу палез у кішэню, дастаў сваю скарбонку:

— Так, даюць. Вось назбіраў трохі.

Вочы Сонькі загарэліся надзеяй:

— Можа, ты дасі мне на цыгарэты? — запытала яна

— Бяры ўсё, гэта я табе збіраў.

Яна ўхапіла кашалёчак і паклала ў сваю сумку.

— Ты мне кашалёчак толькі аддай: мне ж трэба некуды збіраць грошы.

Яна аддала яму кашалёк, дастаўшы адтуль Лёшавы зберажэнні. Пасля яшчэ раз прытуліла Лёшу да сябе і моўчкі пайшла ад яго ў бок крамы. Лёша стаяў і плакаў. Ён ведаў, што яна прыйдзе ізноў да яго, прыйдзе па грошы. І ён дапаможа ёй.

З таго часу Лёша і стаў «банкірам» — так звалі яго школьныя сябры, калі бачылі, што Лёша ашчаджае грошы.

— Мо ты машыну збіраешся купляць? — здзекаваліся з яго.

Але Лёша маўчаў. Што яму гэтыя здзекі, калі ён ведае, што праз некалькі дзён за рогам дома, што побач са школай, будзе стаяць маці і вочы яе будуць свяціцца апошняй надзеяй на Лёшаў «банк».

І каб пабачыць маці хаця б некалькі хвілін, Лёша стрывае і здзекі аднакласнікаў, і дакорлівы позірк бабулі, якая здагадваецца пра ўсё, але маўчыць, аддаючы даніну Лёшавай ахвярнасці.

— Што рабіць? — употайкі шапталіся дзядуля з бабуляй. — Мо не даваць грошы?

Тады Лёша бег да бацькі, і той не мог яму адмовіць. І Лёшаў «банк» зноў поўніўся капіталам...

Першым не вытрымаў бацька.

— Будзем мяняць кватэру. Так далей жыць немагчыма. Яна ўсё роўна будзе даставаць нас да скону і дзяцей знявечыць. Трэба пераязджаць у другі раён.

Так Лёша апынуўся ў другой школе, але даў сабе зарок, што будзе ўпотайкі прыязджаць на сустрэчу з маці, будзе шукаць яе.

Толькі цяпер усе родныя сачылі за ім, бабуля нават з працы звольнілася, каб больш увагі надаваць унукам.

У школу Лёшу цяпер давалі ссабойку: не слабую, канечне, але ж гэта не грошы. Так і лопнуў Лёшаў «банк».

А Сонька, даведаўся малы, з'ехала быццам з нейкім новым мужам жыць у вёску, у кінутую некім хату. Там яна, напэўна, і цяпер.

Лёша марыць, малюе для маці віншавальныя паштоўкі, як і ўсе дзеці ў класе, толькі не ведае, куды адаслаць іх.

— Вось падрасту, пайду працаваць, збяру грошы і адшукаю маму. Як жа яна там без мяне? Хто ёй дапаможа?

Час ляціць, а мары, калі яны моцныя, часам здзяйсняюцца. Можа, стане Лёша сапраўдным банкірам. Хто яго ведае, мо пашанцуе яму за гэтую вялікую любоў да роднага чалавека — маці.

**Ала Кажэра**

Педагог з вялікім стажам, ветэран нацыянальнага руху. Жыве ў Мінску. У аснове апавядання ляжыць рэальная гісторыя.

**Водгукі**

## Кансервацыя і эстэтыка павінны сябраваць!

З вялікай цікавасцю пачаў я чытаць допіс Антона Астаповіча «Захаваць руіны? Так можна застацца нават без руін» у «НН» №6. На жаль, спадар Астаповіч абмяжаваўся толькі павярхоўнай крытыкай майго допісу «Капітальны рамонт руіны «па-багатаму» ў «НН» №3.

Ну навошта аўтар тлумачыць мне, што «вежу трэба было ратаваць»? Добра разумеючы неабходнасць складаных мерапрыемстваў па ўмацаванні Касцельнай вежы, я толькі крытыкаваў тыя архітэктурныя формы, у якіх гэта было зроблена. У першую чаргу гэта датычыць з'яўлення недапушчальных на гістарычным помніку сучасных упрыгожванняў — «архітэктурных празмернасцяў». Я маю на ўвазе дах з велізарным карнізам і тое, што непасрэдна пад ім з усіх бакоў вежы. Цікава, што пан Антон не стаў аспрэчваць, што на Касцельнай вежы ажыццявілі капітальны рамонт «па-багатаму».

Дзіўнае сцвярджэнне пана Антона, што «ў гэтай сітуацыі трэба адштурхоўвацца не ад катэгорыі эстэтыкі, а ад прынцыпаў кансервацыі». Гэта як жа: раз кансервацыя, то вызваліўся ад усіх эстэтычных абавязкаў? Як усё проста!

І, на жаль, у допісе пана Антона няма звестак аб найважнейшым пытанні: якім планецца ўвесь архітэктурна-ландшафтны ансамбль Навагрудскага замчышча ў канчатковым выглядзе.

**Ігар Байцоў, архітэктар, Мінск**



Святлана Куль



## Дэбальцава

**Засеялі жалезам і трацілам,**
**Для ўсходаў непрыбраныя магілы**
**Дадуць на весну тлусты перагной.**
**Што вырасце на збэшчанай зямлі?**
**Якія будуць каласы і плёны?**
**Каму збіраць прарослыя**
**праклёны —**
**Атрутныя сухія бадылі?**
**На чарназёме воля раўчукам —**
**Сцякаюць у глыбокія варонкі.**
**Цякуць снягі, бягуць струменем**
**тонкім.**
**Снягі. Снягі.**
**З крывёю напалам.**





REUTERS

Паказальны выступ спецназаўцаў з мінскай часткі 3214 на Масленіцу.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Зімовая пілігрымка каталіцкіх вернікаў у памежную зону на Дзень памяці пакутнікаў Юрыя Кашыры і Антонія Ляшчэвіча адбылася ў мястэчку Росіца Верхнядзвінскага раёна 21 лютага. У касцёл Святой Тройцы з'ехалася трыста вернікаў.



УЛАДЗІМІР СКРАБАТУН.

Масленіца ў Глыбокім.




Беларуска Дар'я Блашко заняла першае месца ў спрынтарскай гонцы сярод дзяўчат да 19 гадоў на юнацкім чэмпіянаце свету па біятлоне ў Раўбічах. Яшчэ адзін залаты медаль Блашко ўзяла ў эстафеце з сяброўкамі па зборнай.



## Анекдоты і жарты

* * *

Рабіновіч прыходзіць уладкоўвацца на працу ў буйную фірму.
У аддзеле кадраў яго пытаюць:
— Што вы ўмееце рабіць?
— Нічога.
— На жаль, усе кіраўнічыя пасады ў нас занятыя...

* * *

Шукаю працу. На пасаду спецыяліста па імітацыі дзелавой актыўнасці. Досвед працы — 12 гадоў.

* * *

Скажы мне, кім ты сябе лічыш, і я растлумачу, дзе ты праЛічыўся.

* * *

Ва ўсім свеце працуюць так, каб заслужыць прэмію. І толькі ў нас працуюць так, каб яе не пазбавілі.

* * *

– Давай проста паляжым моўчкі. У цішыні.
– Хто вы?!
– Ну вось, ты ўсё сапсавала.

* * *

Толькі мужчыны і каты ад нараджэння, на генетычным узроўні, валодаюць уменнем з надзвычай дзелавым выглядам ляжаць на канапе.

* * *

Калі вы лічыце, што вамі ніхто не маніпулюе, значыць, вы ў руках прафесіяналаў.

* * *

– Холадна ж як, проста змерзла ўся.
– Уключы абагравальнік.
– Наогул, гэта быў тонкі намёк...
– Намёк зразумеў. Ты хочаш, каб яго ўключыў я.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Вядомы пан Саланевіч**, цяперака рэдактар «Северо-Западной Жизні» ў Мінску, колькі часу таму назад быў засуджаны на 2 месяцы турмы за стацьцю проці дзісненскага спраўніка. Цяперака гэта кара, па просьбе на Найвышэйшае Імя, зменена Саланевічу на месяц арышту пры паліцыі.

«НН». №8.1915.

**Казулін знайшоўся.** Экс-рэктар БДУ Аляксандр Казулін стварае рух «Воля народу». Яго падтрымлівае газета «Народная воля». Лукашэнка раз'юшана рэагуе на з'яўленне Казуліна на палітычнай сцэне падчас нарады па пытаннях карупцыі. Незалежнае грамадства раскалатае ў пытанні стаўлення да Казуліна.

«НН». №8. 2005.

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
сакратарка рэдакцыі Тацціна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by
**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 24.02.2015.
Замова №505.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
9 771819 161008 15008